## *Выбарчы клуб «ЛіМа»*

**17—18 сакавіка адбылося паўторнае галасаванне ў 190 выбарчых акругах па выбарах народных дэпутатаў БССР.**

**У гэтым туры галасавання прынялі ўдзел каля 77 працэнтаў выбаршчыкаў. Амаль чвэрць дэпутацкіх мандатаў у Вярхоўным Савеце рэспублікі застаюцца пакуль вакантнымі. Напрыклад, у Мінску выбраны толькі 24 дэпутаты, а галасаванне ішло ў 48 акругах. Сярод выбраных — старшыня праўлення ТБМ Н. Гілевіч, акадэмік АН БССР Я. Канапля, ваеннаслужачы У. Грыбанаў, сакратар Мінскага ГК КПБ П. Краўчанка, выкладчык П. Садоўскі, сакратар Фрунзенскага РК КПБ Л. Радкевіч, журналістка «Настаўніцкай газеты» В. Галубовіч, мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі Філарэт, рабочы С. Антончык, літаратар Л. Баршчэўскі і іншыя.**

**Водгулле першых двух тураў важнай палітычнай кампаніі — у матэрыялах «Выбарчага клуба» «ЛіМа».**

## *З ПОШТЫ ГЭТАГА ТЫДНЯ*

●

**16 сакавіка 1990 года** напярэдадні паўторнага галасавання за кандыдатаў у народныя дэпутаты Беларускай ССР і мясцовых Саветаў на старонках «Вячэрняга Мінска» з'явіўся артыкул Т. Бумажковай «Запявалы закуліснага хору», дзе брудам (што характэрна і для іншых матэрыялаў гэтай аўтаркі) абліваюцца Беларускі народны фронт, у прыватнасці, яго лідэры Зянон Пазняк, Юрый Хадыка, прадстаўнікі навуковай, пісьменніцкай і студэнцкай грамадскасці. Гэты чарговы залп Бумажковай выкліканы на гэты раз прыездам у Мінск прадстаўніка беларускай эміграцыі з Вялікабрытаніі святара А. Надсана, які, дарэчы, перадаў дзецям Мінскага гематалагічнага цэнтра некалькі тысяч шпрыцоў аднаразовага карыстання і пэўную колькасць лекаў. Сам А. Надсан паказваецца ў публікацыі, як былы паслугач гітлераўцаў.

Сведчым, што гэты артыкул друкаваўся без якой-небудзь папярэдняй рады з калектывам журналістаў рэдакцыі. Доказаў праўдзівасці сваёй публікацыі Т. Бумажкова, што працуе ў рэдакцыі «Сельской газеты», нам не прад'яўляла. Мы задаём гаркому КПБ пытанне: чаму трыбунай для скандальнага выступлення зноў выбіраецца «Вячэрні Мінск», а не тая ж, скажам, «Сельская газета», дзе працуе такая «дасведчаная» журналістка Т. Бумажкова? Чаму А. Надсан, прадстаўлены чытачам як ваенны злачынца, змог свабодна прыехаць у нашу краіну?

Мы, група журналістаў «Вячэрняга Мінска», лічым гэты артыкул правакацыяй, мяркуем, што яго з'яўленне прывядзе да новага абвастрэння грамадска-палітычнай сітуацыі ў горадзе і ў Беларусі.

І яшчэ адно. Мы перакананы: сёння мы не маем маральнага права адмаўляцца ад дапамогі, якую аказваюць нашым хворым дзецям розныя замежныя арганізацыі і асобныя грамадзяне. Сам жа ўрад рэспублікі звярнуўся да сусветнай грамадскасці, у тым ліку і да беларусаў, якія жывуць за мяжой, з просьбай аб дапамозе ў ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі.

**А. НІКАЛАЙЧАНКА, Л. КОКТЫШ, Н. ЗЫБАЙЛА, Р. НЕПАЧАЛОВІЧ, С. ДУБЕЛІР, А. ПАТРЭБІН, С. ВЯЛІЧКА—супрацоўнікі рэдакцыі газеты «Вячэрні Мінск».**

●

**Напярэдадні** паўторнага галасавання на выбарах народных дэпутатаў газета «Вячэрні Мінск» апублікавала ліст групы супрацоўнікаў Мінскага педінстытута замежных моў. Гаворка ў ім ішла пра кандыдата ў народныя дэпутаты БССР В. Л. Акулава.

У гэтым лісце загадчык кафедры філасофіі інстытута Валянцін Леанідавіч Акулаў абвінавачваўся ў тым, што ён нібыта рэалізуе нейкія асабістыя амбіцыі, адурманьвае студэнтаў «пустабрэхствам». Самі ж студэнты,—сцвярджалі аўтары пісьма, — вельмі несур'ёзна і залішне эмацыянальна паступілі, калі падтрымалі кандыдатуру свайго выкладчыка.

Для таго, каб запэцкаць свайго калегу, аўтары ліста выкарысталі ўсё, нават падрабязнасці прыватнага жыцця прафесара. Што ж, брудныя мэты заўсёды дасягаюцца бруднымі сродкамі. Сумна ўсведамляць, што нашы выкладчыкі (шмат з якіх, мы, дарэчы, ведаем асабіста і паважаем) кіраваліся нізкімі пачуццямі. У свой час яны старанна вучылі нас інтэлігентнасці, тактоўнасці, шчырасці...

Не трэба лічыць, што студэнцтва—гэта вялая, аморфная маса. У большасці з нас ёсць і веды, і пэўны жыццёвы вопыт. Таму мы самі здольны вырашыць, за кім ісці, каго падтрымліваць.

І яшчэ адзін важны момант. Барацьба за дэмакратызацыю жыцця ў нашым інстытуце не ёсць передвыбарчая самаагітацыя В. Акулава. Гэта імкненне павярнуць інстытут замежных моў тварам да студэнтаў, якія, паверце, даўно ўжо гэтага чакаюць. Застаецца пашкадаваць тых людзей, якія здольны аб'яднацца толькі для таго, каб у адказны момант нанесці блізкаму свайму ўдар з-за вугла.

**С. ШЫКАВА, І. ПАЯСКОВА, І. КРАЧЫНА, студэнты пятага курса факультэта англійскай мовы Мінскага педінстытута.**

# З ЧЫЙГО БЛАСЛАВЕННЯ?

...СУБОТА 17 САКАВІКА, будынак Мінскага політэхнікума. Тут размешчаны 7-мы выбарчы ўчастак 27-ай выбарчай акругі, па якой у Вярхоўны Савет рэспублікі балаціруюцца доктар фізіка-матэматычных навук, намеснік старшыні рады БНФ «Адраджэнне» Ю. Хадыка і начальнік цэха завода імя Вавілава А. Бублік. 8 гадзін вечара. Старшыня ўчастковай выбарчай камісіі Т. Кузьмянкова абвяшчае пачатак падліку галасоў...

Я прысутнічаю тут як карэспандэнт «ЛіМа». Паміж маім сталом і сталамі, за якімі паселі члены камісіі, вялікая «мёртвая» зона, па якой праходжваецца міліцыянер і пільна сочыць за тым, каб мы, «наглядальнікі» не перасеклі «граніцу».

З урнаў на сталы сыплюцца каляровыя паперыны бюлетэняў. Члены камісіі пачынаюць іх сартаваць, падлічваць, а я спахопліваюся: ці з гэтага павінен быў бы пачынацца падлік галасоў? Згодна з законам, трэба было спачатку апрыходаваць і пагасіць нявыкарыстаныя бюлетэні. Гэта адна з асноўных умоў захавання аб'ектыўнасці ў падліку галасоў. Тут жа нявыкарыстаныя бюлетэні (колькі іх?) недзе былі схаваны. Дзе гарантыя, што яны не будуць пэўным чынам пушчаны ў ход?

Між тым, некаторыя члены камісіі з пачкамі бюлетэней у руках раз-пораз знікаюць у выбарчых кабінах, што стаяць побач (падлік галасоў праводзіцца ў зале, дзе праходзіла галасаванне), і пабыўшы там колькі хвілін, вяртаюцца з тымі бюлетэнямі назад. Што яны там з імі робяць?

Цяпер крыху пра фінал гэтай «гісторыі». Пасля таго, як Т. Кузьмянкова абвясціла вынікі галасавання (Ю. Хадыку не хапіла для перамогі 23 галасы), я вымушаны быў заявіць ад імя наглядальнікаў, якія тут прысутнічалі, пратэст супраць грубага парушэння закона аб выбарах. Слова цяпер за Цэнтральнай выбарчай камісіяй...

ВЫНІКІ другога тура выбараў у Вярхоўны і мясцовыя Саветы народных дэпутатаў яшчэ патрабуюць свайго асэнсаваная. Але ўжо цяпер нельга не заўважыць адну немалаважную акалічнасць, якая пэўным чынам характарызавала прайшоўшыя выбары. Многія кандыдаты ў народныя дэпутаты (гэта тычыцца ў першую чаргу кандыдатаў у народныя дэпутаты БССР), якія завяршылі першы тур выбараў з трывалым запасам галасоў, на другім туры гэтую перавагу, як правіла, страцілі.

Чаму ж выбаршчыкі, якія два тыдні назад недвухсэнсоўна выказвалі свае сімпатыі пэўным кандыдатам у дэпутаты, цяпер ім у сваім даверы адмовілі?

Думаю, на гэта паўплывала беспрэцэдэнтная па сваіх маштабах кампанія па дыскрэдытацыі шэрагу кандыдатаў у дэпутаты. У першую чаргу тых, каго падтрымліваў Беларускі народны фронт «Адраджэнне». Ініцыятары гэтай паклёпніцкай кампаніі не лічыліся ні са сродкамі (у тым ліку матэрыяльнымі), ні з элементарнай прыстойнасцю. У ход былі пушчаны інсінуацыі, плёткі, фальсіфікацыя, паклёп. Пра аднаго з кандыдатаў, скажам, распаўсюджваліся лістоўкі, якія «выкрывалі» яго, як мнагажэнца, пра другога пісалі, што ён з трыма дамачадцамі займае стометровую кватэру, пра трэцяга — што атрымаў па-за чаргой дачны ўчастак, пра чацвёртага — што супрацоўнічаў з фашысцкімі акупантамі (а чалавек нарадзіўся ў сорак другім годзе), пра іншых — што гандляваў іконамі, зневажаў класікаў марксізму-ленінізму, дрэнна жыве з жонкаю і г. д. і да т. п.

«Гласом вопиющего в пустыне» аказаліся спробы асобных «пацярпеўшых» з дакументамі ў руках абвергнуць гэтыя інсінуацыі. Дзе там! Прабіць наменклатурныя шэрагі, што стаялі за тымі лістоўкамі, было амаль немагчыма.

Разумею, што гэтыя словы выклічуць гнеў не аднаго кіруючага таварыша. Маўляў, «не спайманы — не злодзей». Сапраўды, ні адна з «праклямацый», пра якія ідзе гаворка, не была падпісана (не лічыць жа подпісамі «Ініцыятыўная група», «Выбаршчыкі», «Група выбаршчыкаў» і да т. п.). Але ў адным выпадку

# ЯШЧЭ РАЗ ПРА «ТАКТЫКУ І СТРАТЭГІЮ»

Да выбараў народных дэпутатаў у Астравецкім раёне, што на мяжы Гродзенскай вобласці і Літвы, сродкі масавай інфармацыі праявілі — выпадкова ці не — павышаную цікавасць. Яшчэ у час вылучэння кандыдатаў сюды прыязджаў карэспандэнт «Праўды». Пра вынікі выбараў (народным дэпутатам БССР па Астравецкай акрузе № 264 стаў старшыня Гродзенскага аблвыканкома Д. Арцыменя) паведамляла Беларускае радыё. Матэрыялы пра тое, што адбывалася ў раёне напярэдадні выбараў, змяшчаліся і ў «ЛіМе». У прыватнасці, у нумары за 2.03 г.г. быў апублікаваны артыкул В. Жданко «Новы час па старым стылі». А ўжо 7 сакавіка (зайздросная аператыўнасць!) рэдакцыя атрымала афіцыйны адказ з Астравецкага РК КПБ. Прыводзім яго цалкам:

**«Разгледзеўшы артыкул «Новы час па старым стылі», бюро Астравецкага райкома КПБ выказвае нязгоду з пунктам гледжання яго аўтара тав. В. Жданко ў асвятленні характару перадвыбарчай барацьбы ў раёне.**

**Крытыка партыйнага камітэта і кіраўніцтва раёна ў заціску і нецярпімасці да іншадумства не мае пад сабой аб'ектыўных падстаў.**

**Кандыдатура тав. Арцымені Д. К. па вылучэнні яго кандыдатам у народныя дэпутаты БССР па Астравецкай выбарчай акрузе № 264 шырока абмяркоўвалася ў раёне.**

**У калектыве апарату райкома КПБ пытанне таксама абмяркоўвалася і была дасягнута думка падтрымаць вылучэнне тав. Арцымені Д. К., які аддаў раёну шмат сіл і энергіі.**

**У сувязі з гэтым паводзіны тав. Герта А. Р. на сходзе ў райаграпрамтэхніцы былі расцэнены таварышамі па рабоце як выклік калектыўнай думцы. Таму пярвічная партарганізацыя і спытала з тав. Герта А. Р., як палічыла патрэбным.**

**Гэта права калектыву, і пошук аўтарам артыкула тут крыміналу — нясціплая справа.**

**Вылучэнне і сустрэчы кандыдатаў у народныя дэпутаты БССР прайшлі ў адпаведнасці з Законам аб выбарах. Але і тут аўтар артыкула не пазбегнуў танных спекуляцый, скарыстаўшы збіты прыём атакі на апарат. Так, вылучэнне тав. Маўрына С. П. у народныя дэпутаты прадстаўлена чытачам як козні апарату. Хоць на самай справе неправамоцнасць вылучэння ў двух выпадках была абумоўлена парушэннем Закона аб выбарах. Тым не менш гэты факт свядома праігнараваны. Гэта ўжо больш чым нясціпласць — гэта дэзінфармацыя грамадскай думкі.**

**Да гонару выбаршчыкаў раёна яны здолелі правільна ацаніць передвыбарчую абстаноўку, убачыць, хто ёсць хто, і зрабіць сталы грамадзянскі выбар.**

**Тав. Арцыменя Д. К. выбраны народным дэпутатам БССР, за яго прагаласавала 10677 выбаршчыкаў з 20218 тых, хто прыняў удзел у галасаванні. Тав. Герт Р. А. атрымаў 6047 галасоў.**

**Так што ў нечым райком КПБ, можа, і памыляецца, але не ў галоўным, як гэта стараецца прадставіць грамадскай думцы т. Жданко В. І доказ гэтаму — выбар выбаршчыкаў раёна. Гэта неабвержны дакумент падтрымкі працоўнымі тактыкі і стратэгіі райкома партыі ў выбарах народных дэпутатаў.**

**Спадзяёмся, што наш адказ рэдакцыі будзе апублікаваны ў вашай газеце.**

**Сакратар Астравецкага райкома Кампартыі Беларусі І. КАРДАШ».**

Не будзем высвятляць, ці з'яўляецца крытыка метадаў работы райкома з боку журналіста «нясціплай справай» і «пошукам крыміналу». Звернем увагу на больш істотныя моманты. «Вылучэнне і сустрэчы кандыдатаў у народныя дэпутаты БССР прайшлі у адпаведнасці з Законам аб выбарах», — піша тав. І. Кардаш. Чым жа тады растлумачыць, што ўсе тры сапернікі Д. Арцымені на выбарах — намеснік старшыні райвыканкома Р. Герт, пісьменнік А. Мальдзіс і афіцэр міліцыі С. Маўрын — звярнуліся ў Цэнтральную выбарчую камісію са скаргамі на парушэнне заканадаўства аб выбарах?

Вось як адрэагавала ЦВК на тэлеграмы кандыдатаў у дэпутаты:

**«Паведамляем, што скарга на парушэнні Астравецкай акруговай выбарчай камісіяй заканадаўства аб выбарах, якія выразіліся ў тым, што кандыдаты ў народныя дэпутаты пастаўлены ў няроўныя ўмовы, разгледжана.**

**...Звернута ўвага старшыні акруговай камісіі на недапушчальнасць парушэнняў патрабаванняў Закона аб выбарах і няўхільнае забеспячэнне роўнага права ў правядзенні перадвыбарчай агітацыі ўсім кандыдатам.**

**Сакратар Цэнтральнай выбарчай камісіі па выбарах народных дэпутатаў І. ЛІХАЧ» (26.02.90 г.).**

На думку першага сакратара Астравецкага РК КПБ І. Кардаша, выбаршчыкі раёна адназначна падтрымалі на выбарах стратэгію і тактыку раённага камітэта партыі. (Дарэчы, старшынёй акруговай камісіі быў сакратар Астравецкага РК КПБ М. Ялоўскі). Але ці пагодзяцца з гэтай думкай тыя выбаршчыкі, якія накіравалі свае пратэсты на адрас Цэнтральнай выбарчай камісіі? Працытуем некаторыя з іх.

«Мы, пенсіянеры... вёскі Лазоўня, з абурэннем патрабуем разабрацца — па якой прычыне нас пазбавілі права голасу ў дзень выбараў 4.03.90 г.? Нягледзячы на тое, што ў вёску прыязджала камісія з урнай, да нас у хаты нават не зай-

**Валянцін АКУЛАЎ,**
доктар філасофскіх навук, прафесар

# Філасофія трагедыі ці трагедыя філасофіі?

Які чалавек, такую філасофію ён сабе і выбірае.

**Фіхтэ.**

Гэта наогул ужо больш не філасофія, а проста светапогляд...

**Энгельс.**

СЕННЯ, мусіць, ужо нікога не трэба пераконваць (не кажу пра тых, каго пераконваць бескарысна і пра каго ў народзе гавораць: гарбатага магіла выпрастае), што сталінізм і сталінская практыка «стварэння новага свету» — трагедыя ў гісторыі народа. І калі слушна гаварыў Маркс, што філасофія з'яўляецца духоўнай квінтэсенцыяй эпохі, дык правамерна было б паставіць пытанне: у якой ступені эпоха сталінізму, уключаючы застой як непазбежны фінал, знайшла сваё адлюстраванне ў філасофіі і ў якой ступені сама філасофія, у сваю чаргу, садзейнічала яе тэарэтычнаму і ідэалагічнаму абгрунтаванню? Што такая сувязь «свядомасці і рэальнасці», «тэорыі і практыкі» існуе, — несумненна, даўно заўважана, у тым ліку і белетрыстыкай. На жаль, сувязь гэта скрозь і ўсюды ўсведамляецца не на сутнасным, а на з'яўленчым узроўні. Як вынік гэтага, за філасофію нашай трагедыі прымаюць падчас тое, што складае трагедыю самой філасофіі. Інакш кажучы, у якасці духоўніка сталінізму спрабуюць выставіць матэрыялістычную дыялектыку, хоць яна гэтак жа вінавата ў казарменным сацыялізме Сталіна, як дарвінізм вінаваты ў мічурынскай біялогіі Лысенкі. Гістарычны вопыт пераконвае: няма такой тэорыі, якая была б застрахавана ад скажэнняў і містыфікацый, з якой нельга было б зрабіць самыя недарэчныя высновы. Тое, што здарылася з матэрыялістычнай дыялектыкай, — лішні раз засведчыла справядлівасць гэтай старой, як свет, ісціны.

Прывяду ўсяго толькі два прыклады, хоць колькасць іх можна было б множыць бясконца.

**У рамане «Архіпелаг ГУЛАГ» А. Салжаніцын піша: «Аказваецца, у той грознапамятны год (г. зн. 1937.— В. А.) у сваім дакладзе, які стаў у спецыяльных колах славутым, Андрэй Януар'евіч Вышынскі ў духу найглыбейшай дыялектыкі... напомніў, што для чалавецтва ніколі немагчыма вызначыць абсалютную ісціну, а толькі адносную. І адсюль ён зрабіў крок, на які юрысты не адважваліся дзве тысячы гадоў: што, значыць, і ісціна, якая адшукваецца следствам і судом, не можа быць абсалютнай, а толькі адноснай. Таму, падпісваючы прысуд аб расстрэле, мы ўсё роўна ніколі не можам быць АБСАЛЮТНА ўпэўнены, што караем вінаватага, а толькі з пэўнай ступенню набліжанасці, у пэўных дапушчэннях, у пэўным сэнсе», («Новый мир», 1989, № 8, стар. 60). Значыць, «найглыбейшая дыялектыка» — вось што дазволіла Вышынскаму ўсведамляць сябе не «непрыхаваным нягоднікам», а «лагістам». Так мяркуе А. Салжаніцын.**

**Пісьменнік памыляецца, і дыялектыка тут рашуча ні пры чым. Зручны сілагізм Вышынскага парушае элементарныя законы элементарнай (але, нават не дыялектычнай, а элементарнай, фармальнай) логікі. З той пасылкі, што «ісціна, якая адшукваецца следствам і судом, не можа быць абсалютнай» (нават калі б дыялектыка і сцвярджала нешта такое), вынікаюць не адна, а дзве высновы: 1) суд павінен выносіць прыгавор, не будучы абсалютна ўпэўненым у вінаватасці падсуднага; 2) ніякі працэс судаводства ў прынцыпе немагчымы. А ўжо якое рашэнне мы «прымем за аснову», якому з іх аддадзім перавагу, залежыць не ад логікі, а ад іншых меркаванняў, што не маюць да логікі аніякіх адносін. Будзем кіравацца той, асвечанай шматвяковым вопытам развіцця чалавечай цывілізацыі, юрыдычнай нормай, што ўсялякае сумненне павінна быць вытлумачана на карысць абвінавачанага, — прыйдзем да аднаго вываду. Будзем кіравацца прынцыпам (калі можна так недарэчы ужыць тут гэтае паняцце) «рэвалюцыйнай мэтазгоднасці» — прыйдзем да другога. Наш «лагіст», такім чынам, насуперак меркаванню А. Салжаніцына, парушае не толькі законы логікі, ён адкідвае заадно і нормы права.**

ДАПУСЦІМ, скажа чытач. Але калі дыялектыка ў аднолькавай ступені допускае і апраўданне вінаватага, і пакаранне невінаватага, дык якое яна наогул можа мець значэнне для нашай грамадскай і проста жыццёвай практыкі? У чым яе сэнс? На гэта я мог бы адказаць, што навуцы (але, вядома, не вучонаму) у вышэйшай ступені напляваць, як мы будзем выкарыстоўваць яе вынікі. Яна заклікана адкрываць законы быцця і мыслення, якое яго адлюстроўвае, а не задумвацца над недарэчным пытаннем, чаму свет развіваецца па гэтых, а не па іншых законах. Тым больш не ўпаўнаважана выносіць ім, гэтым законам, маральны вердыкт. На падставе аднаго і таго ж ведання можна аблягчыць жыццё чалавека, але можна гэтае жыццё і ўкараціць. І ў чарнобыльскай трагедыі вінавата не навука (пра што слушна было сказана народным дэпутатам СССР С. Шушкевічам), а адміністрацыйна-камандная сістэма з яе татальнай безадказнасцю.

Усё гэта я мог бы сказаць, але не скажу. Не скажу таму, што дыялектыка зусім не сцвярджае, што ісціна толькі адносная і не разглядае абсалютную ісціну як нейкі недасяжны ідэал навуковага пазнання, які можа з'явіцца толькі ў выніку бясконцага сумiравання бясконцых адносных ісцін. Гэта дыялектыка тых, хто вучыў яе «не по Гегелю». Сапраўдная ж, г. зн. навуковая, дыялектыка не менш, а больш строгая ў сваіх патрабаваннях да мыслення, чым логіка фармальная. І яе «і—і», што выклікае недаўменне і раздражненне, замест фармальна - лагічнага «або—або», зусім не азначае, што можна хлусіць, як хочаш, не баючыся быць выкрытым.

Возьмем элементарны прыклад. Дапусцім, я сцвярджаю, што сума вуглоў трохкутніка раўняецца двум прамым. Правільнае мае сцвярджэнне ці не? У адпаведнасці з патрабаваннямі фармальнай логікі я павінен адказаць на гэтае пытанне адназначна: або — або, альбо так, альбо не. Аднак у тым жа і справа, што я не магу так адказаць, не ўступіўшы ў супярэчнасць з ісцінай. Бо сума гэтая можа быць і роўная двум прамым, і большай за два прамыя, і меншай за два прамыя. У залежнасці ад таго, з якой геаметрыяй мы маем справу — Эўклідавай, рыманаўскай ці геаметрыяй Лабачэўскага. Але ці азначае гэта, што ісціна толькі адносная, а яе абсалютнасць выяўляецца ў тым, каб складваць «частачку» ісціны геаметрыі Лабачэўскага, «частачку» ісціны геаметрыі Рымана, «частачку» ісціны геаметрыі Эўкліда, «частачкі» ісцін тых геаметрый, пра якія мы сёння нічога не ведаем, не ведаем нават, ці існуюць такія геаметрыі наогул? Вядома ж, не. З такога роду складвання нічога, акрамя недарэчнасці, атрымаць нельга. Але ж менавіта гэтую недарэчнасць і прапануе нам ад імя дыялектыкі Вышынскі, спасылаючыся на аўтарытэт тых, хто чуў дыялектычны звон, ды не патурбаваўся прыслухацца, адкуль гэты звон плыве.

**А разам з тым усё тут проста, як калумбава яйка. Ісціна, гаворыць дыялектыка, заўсёды адносная. Гэта значыць, што яна зберагае ўласцівасць сапраўднасці не наогул, безадносна да чаго б там ні было, а толькі ў строга пэўнай сістэме адносін. У іншых адносінах яна пераходзіць у сваю процілегласць, робіцца не-ісцінай, заблуджэннем. Тое, што ісціна заўсёды адносная, зусім не азначае, што яна ТОЛЬКІ адносная. Зусім наадварот, будучы адноснай наогул, яна АБСАЛЮТНАЯ ў дадзенай сістэме адносін. Адноснасць, такім чынам, — не перашкода на шляху да абсалютнай ісціны. Наадварот, па-за гэтай сваёй адноснасцю абсалютная ісціна проста не ў стане сябе рэалізаваць. Маё сцвярджэнне, што сума вуглоў трохкутніка раўняецца 180 градусам, з'яўляецца ісцінай адноснай, калі мець на ўвазе геаметрыю свету наогул. Але яно з'яўляецца абсалютнай ісцінай, калі гаворка ідзе пра тую прастору, у якой мы, чытач, з вамі жывём. Ніякія вымярэнні (Лабачэўскі меў магчымасць у гэтым пераканацца) гэтую ісціну не абвергнуць. І маса (вага) бульбы, прывезенай з калгаснага поля на базу, павінна быць адной і той жа, колькі б нас ні запэўнівалі гандлёвыя работнікі ў адваротным, спасылаючыся на тэорыю адноснасці. Вяртаючыся ж да пытання аб значэнні дыялектычнага разумення прыроды ісціны для працэсу судаводства, я павінен сказаць, што гэтае разуменне дэкрэтуе адно: судовы прыгавор можа быць вынесены толькі на аснове ўсебаковага аналізу і пры ўліку ўсіх акалічнасцей справы, па якой прыгавор выносіцца. Не больш, але і не менш за гэта.**

Другі прыклад, які тычыцца палажэння аб тым, што свабода ёсць усвядомленая неабходнасць. Бедны Спіноза, яго і цяпер, праз трыста гадоў, працягваюць трэціраваць, «як мёртвага сабаку». А разам з тым і суд несправядлівы, і крытыка не на адрас: анічога фаталістычнага, а тым больш канфармісцкага, ахавальнага няма ў думцы Спінозы. Ды і дзіўна было б абвінавачваць у канфармізме чалавека, які палічыў за лепшае канчаткова аглухнуць ад гукаў казлінага рогу, названага шафарам (рок-музыкі тады яшчэ не было), але зберагчы свабоду думкі. Зрэшты, нешта такое ўжо было ў нашай гісторыі. Я маю на ўвазе вядомы тэзіс Гегеля: «Усё існае — разумнае». Прыгадаем, колькі нерваў і крыві каштаваў ён Бялінскаму. Да канца дзён сваіх не даравАў сабе крытык ні «Менцэля, крытыка Гётэ», ні «Барадзінскай гадавіны». А куфэрачак жа адчыняўся проста. Праўда, каб адчыніць яго, трэба было валодаць праніклівасцю Гейнэ. Я дазволю сабе нагадаць чытачу гэтую мясціну з «Пісьмаў аб Германіі». Ва ўласцівым яму іранічным стылі Гейнэ піша тут: «Калі я неяк абурыўся палажэннем «усё існае—разумнае», ён (г. зн. Гегель.— **В. А.**) дзіўна ўсміхнуўся і заўважыў: «Гэта можна было б выказаць і так: усё разумнае павінна быць існым» (Г. Гейнэ. Выбр. тв., т. 7. М., 1958, стар. 438). Аднак жа і сапраўды, Гейнэ як-ніяк прайшоў школу Шэлінга, ды і таго ж Гегеля. І не віна, а бяда нашых пісьменнікаў і літаратурных крытыкаў, што ім даводзіцца задавальняцца дыялектычным лікбезам.

Кажучы пра Спінозу, я невыпадкова ўспомніў пра Гегеля: палажэнні, пра якія мы гаворым, знаходзяцца ў самым блізкім сваяцтве. Па сутнасці мы маем тут адну і тую ж думку, але ўзятую ў розных ракурсах. з розных пунктаў гледжання — гістарычнай неабходнасці як аб'ектыўнага працэсу развіцця і суб'ектыўнага ўсведамлення гэтай неабходнасці, якое выяўляецца ў меры свабоды чалавека. І як палажэнне Гегеля зусім не азначае, што мы павінны спяваць асанну ўсяму існуючаму, так і палажэнне Спінозы не азначае, што мы павінны вывяраць сваю свабоду тымі акалічнасцямі, у якіх жывём. Зусім наадварот, тут заўсёды трэба ставіць пытанне: а ці разумная сама рэчаіснасць і ці неабходныя тыя акалічнасці, якія вызначаюць меру нашай свабоды? Я не буду развіваць далей гэтую тэму. Скажу толькі, што грамадзянская, ды і проста чалавечая пазіцыя таго ж А. Салжаніцына знайшла б поўнае спачуванне з боку Спінозы, бо цалкам адпавядае аб'яўленаму ім прынцыпу свабоды. Вось ужо сапраўды, як часта мы, накшталт мальераўскага Журдэна, гаворым прозай, самі аб тым і не здагадваючыся. І як жа меў рацыю Гейнэ, заўважыўшы ў іншым месцы: «Усюды, дзе вялікі дух выказвае свае думкі, ёсць Галгофа» (там жа, т. 6. стар. 65).

Менш за ўсё мне хацелася б ставіць у віну творчай інтэлігенцыі гэтую неадэкватнасць разумення дыялектыкі. Па прастаце душэўнай яны проста давяраюцца прафесійнай кампетэнтнасці соцень тамоў нашых «партыйных кніжак». І, само сабой разумеецца, трапляюць у няёмкае становішча. Бо мінулі часы, калі філасофія ў адпаведнасці з этымалагічнай радаслоўнай была мудрасцю, і працавалі на гэтай няўдзячнай ніве мудрацы. Канула ў Лету і традыцыя (больш дакладна і больш справядліва было б сказаць— сам спосаб жыццядзейнасці філосафа), якая вымусіла Сакрата выпіць цыкуту ў доказ існасці таго, што ён выспаведваў сам і чаму вучыў іншых. Тэрмін «філасофія», які мы прыкладваем да таго дзіўнага занятку, якому аддаецца пэўная частка нашага грамадства, — не больш чым адзежына, «экспрапрыіраваная» намі з чужых плячэй, бо, як заўважыў яшчэ Энгельс, «гэта наогул ужо больш не філасофія, а проста светапогляд...» (К. Маркс і Ф. Энгельс. Тв., т. 20, стар. 142). І працуюць на гэтай ніве скрозь і ўсюды не мудрацы, а разумнікі, якія аддаюць перавагу не сакратаўскай атруце, а наркомаўскім ста грамам.

**Філосафы па прызванні, тлумачыў Сакрат, «з ранняга юнацтва не ведаюць дарогі ні на агору, ні ў суд, ні ў Савет, ні ў любы іншы грамадскі сход. Законаў і пастаноў, вусных і пісьмовых, яны ў вочы не бачылі і чуць пра іх не чулі. Яны не прагнуць уступаць у таварыствы дзеля атрымання пасад, сходкі і бяседы і начныя шэсці з флейтысткамі і ў сне ім не могуць прысніцца. Добрага роду хто з грамадзян ці благога, у каго якія непрыемнасці з-за бацькоў, ад мужоў ці ад жонак — усё гэта больш прыхавана ад такога чалавека, чым колькі, паводле прымаўкі, мер вады ў моры. Яму невядома нават, што ён гэтага не ведае. Бо ўстрымліваецца ён ад гэтага не дзеля пашаны, а справа ў тым, што адно толькі цела яго знаходзіцца і жыве ў горадзе, розум жа, пагарджаючы ўсім гэтым як пустым і нікчэмным, лунае над усім, як у Піндора, мераючы прастору зямлі, спускаючыся на зямлю і сягаючы вышэй за нябесныя свяцілы, усюды зведваючы прыроду любой рэчы ў цэлым і не апускаючыся да таго, што знаходзіцца блізка» (Платон, Тв., т. 2, М., 1970, 173 о, е).**

Ну скажыце, калі ласка, ці не дзівак гэты Сакрат? Не, наш брат-філосаф не такі, яго хлебам не кармі — дай пазасядаць у Савеце, пажадана ў Вярхоўным. Прафесійным абавязкам сваім ён лічыць дакапацца, «добрага роду хто з грамадзян ці благога». А ўжо што датычыць «атрымання пасад» — тут ён па трупах пойдзе, са скуры вылузаецца. І ўжо само сабою зразумела, што ён заўсёды добра дасведчаны, «у каго якія непрыемнасці з-за бацькоў, ад мужоў ці ад жонак», бо абавязковы ўдзельнік усялякага роду «персанальных спраў». Ці трэба гаварыць, што за мноствам усіх гэтых турбот не толькі няма калі «лунаць над усім, як у Піндора, мераючы прастору зямлі», няма калі ўгору зірнуць. Вось і атрымліваецца, што, калі наш мудрэц сядае, нарэшце, за пісьмовы стол, з-пад яго пяра выходзіць нешта такое, што хоць філасофскіх святых вынось.

ПЕРАДА МНОЙ артыкул са шматабяцаючай назвай «Новае мысленне і «старая» філасофія?» Крэда аўтара: філасофскае мысленне, калі яно «хоча сапраўды быць правадніком у складанейшым лабірынце грамадскіх перамен, павінна быць матэрыялістычным і дыялектычным» («Коммунист», 1989, № 2, стар. 66). Я цалкам згодны з гэтым. Пытанне толькі ў тым, што значыць быць матэрыялістычным і дыялектычным?

У адпаведнасці з развіваемай аўтарам канцэпцыяй, каб быць матэрыялістычным, новаму мысленню «неабходна грунтавацца на строгім уліку разнастайных аб'ектыўных інтарэсаў, адасабляць іх ад суб'ектыўных тлумачэнняў, усялякіх на гэты конт ілюзій» (там жа). І тут у мяне ўзнікае першае сумненне: ці новае гэта мысленне? Бо нават самае павярхоўнае знаёмства з французскім матэрыялізмам XVIII стагоддзя, напрыклад, паказвае, што ў ім рэалізуецца менавіта той метадалагічны падыход, які аўтар прэзентуе ў якасці самага што ні ёсць навейшага мыслення. Дазволена было б спытацца, з дапамогай якіх хімічных рэактываў ці якой лакмусавай паперкі мае ён намер аддзяляць «аб'ектыўныя інтарэсы» ад «суб'ектыўных тлумачэнняў і ўсялякіх на гэты конт ілюзій»? З пазіцый «старой» філасофіі тут усё ясна: такім крытэрыем з'яўляецца адпаведнасць ці неадпаведнасць гэтых інтарэсаў рэальным грамадскім адносінам, аб'ектыўным законам гістарычнага развіцця. А як быць з «новым мысленнем»? Пакуль што, наколькі мне вядома, нічога лепшага тут, акрамя «сацыяльна - арганізаванага вопыту», філасофія прапанаваць не змагла. Альбо, можа, аўтар ведае іншы сродак? Як бы там ні было, не падлягае сумненню, прынамсі, адно: мысленне, якое нам падаюць пад грыфам «цалкам новае», на самай справе нічога новага ў сабе не заключае. Гэта добра вядомае філосафам - прафесіяналам мысленне старога матэрыялізму, якое не выводзіць нас яшчэ за межы ідэалістычнага разумення гісторыі.

Пафас я разумею: усе гэтыя гады і дзесяцігоддзі мы так раздзьмувалі палажэнне аб заканамернасці гістарычнага працэсу, непазбежнасці (ледзь не фатальнай) сацыялізму і камунізму, што за гэтай неабходнасцю і заканамернасцю зусім забыліся на цалкам рэальныя, зямныя інтарэсы людзей. Але я рашуча адмаўляюся разумець, чаму за нашу філасофскую непісьменнасць павінен несці адказнасць дыялектычны матэрыялізм?

**Але, можа, я перабольшваю і тое, што дэкларуе аўтар ад імя матэрыялізму, не больш як выдаткі стылю? На жаль. Прывёўшы далей тую думку Маркса, што «гісторыя насіла б**

**(Працяг на стар. 12—13).**

**і далей па-прасцяцку лічыць, што іншага ж народа ў гэтага Паэта і вернага сына проста не было!**

Павінен прызнацца, мяне колькі разоў брала сумненне, а ці не парадзіраваць традыцыйнае літаратуразнаўства ўзяўся паважаны калега і дзеля гэтага сашчапіў ланцужок парадаксальных выказванняў. Можа, не ўсё тут варта прымаць за чыстую манету? Тым болей, што высыпана, як раней казалі, з рога — усяго многа...

Яшчэ адзін парадокс заключаецца ў тым, што галоўнае ў нататках А. Глобуса зусім не мініяцюра. Шырока дасведчаны аўтар добра ведае, што малыя формы ў беларускай літаратуры, як і ў вуснай творчасці, існуюць спаконвеку і ўжываюцца па-рознаму ледзь не кожным сучасным пісьменнікам. Рытарычнае пытанне «А беларусы нічога не маюць?» звязана з праблемаю запазычанняў — гэта навідавоку ў загалоўках раздзелаў за выключэннем першага (квантэма), змест якога патрабуе асобнай гаворкі.

Калі б мы з А. Глобусам разам фармулявалі праблематыку ягонага матэрыялу, думаю, без асаблівых спрэчак сышліся б на такіх пытаннях: як ацаніць тое, што мы маем, і тое, што пазычаем? Што нам наканавана, ад стварэння свету даравана, а што набыта і забыта? На чым грунтуюцца ў літаратуры меркі «свайго» і «чужога»? Ці абавязкова тое, што блішчыць у кагосьці, прымаць за золата ў нас? Хіба заўжды форма і найменне пераносяць на іншую глебу існасць?..

Не прэтэндую на адкрыццё, калі сцвярджаю, што культурныя зносіны, абмен духоўнымі каштоўнасцямі, успрыманне і асваенне іншанацыянальных набыткаў — сфера дужа складаная. І не можа быць залежнай ад нейкай адной асобы, хай сабе і дужа таленавітай, неймаверна разумнай ды бясконца працавітай, — накшталт аператара за пультам, які націскае на кнопкі, і да нас тамамі злятаюць то рубаі, то хоку, то пантум, то грэгерыя, то страмбота, то яшчэ якія трыста цудаў. Пэўна, кожны літаратар вольны пісаць тое, што ён лічыць патрэбным, аднак літаратура ствараецца па сваіх законах, таксама вартых сур'ёзнай увагі, пашаны, а галоўнае — разумення. Адзін з іх — гэта адпаведнасць нацыянальнаму грунту. Да месца будзе паўтарыць за адным аўтарытэтам: «Ёсць лад думак і адчуванняў, ёсць безліч звычаяў, павер'яў і звычак, уласцівых толькі таму ці іншаму народу»; «Клімат, лад праўлення, вера даюць кожнаму народу асаблівую фізіяномію, якая больш і менш адбіваецца ў люстры паэзіі» (А. С. Пушкін. «Пра народнасць у літаратуры»).

А калі сапраўды, як у нататках Глобуса сказана, «такой аргументацыі недастаткова», калі Пушкін не аўтарытэт, паслухаем свайго супляменніка, сучасніка і старэйшага таварыша, які стаіць за тое самае: «На маё глыбокае перакананне, трэба зыходзіць з таго, што духоўная культура нацыі можа развівацца толькі на жыватворнай глебе традыцый, на тым, што дасталося нам у спадчыну ад папярэдніх пакаленняў, гэта значыць, на той культурнай глебе, якая ўтваралася і нарастала паступова, цягам доўгіх стагоддзяў. Утваралася, выпрацоўваючы перш за ўсё свае ўласныя, самабытныя кампаненты і плённа асвойваючы, убіраючы ў сябе духоўныя каштоўнасці іншых народаў» (Н. Гілевіч, «Родны дом наш і мы»).

Дык паспрабуем разабрацца, калі, як, што і чаму плённа асвойвалася. Не забудземся на такія моманты: наша духоўная культура залежыць ад пэўнай сукупнасці найперш генетычных і гістарычных фактараў. Мо цяпер, заднім розумам, некаму і не зусім даспадобы продкі, браты альбо суседзі — ды так наканавана. З славянскага моцнага кораня давялося вырастаць, таму невыпадкова мелі адну сістэму духазвароту з тымі, хто, паводле Адама Глобуса, сваімі ямбамі ды харэямі нас уціскаў, ды і цяпер «пэўных асоб» прымушае «блукаць паміж дзвюх руска - беларускіх соснаў». Невыпадкова ж нашыя продкі далучыліся да запаветаў «Евангелля», а не «Ціпітакі», прынялі кірылічную азбуку, а не кітайскія іерогліфы, убіралі ў сябе тое, што ішло ад Рыма ці Візантыі, а не ад Самарканда. Не толькі даследчыкі - кампаратывісты ведаюць, бо не яны прыдумалі, што існуе пэўная сістэма яднання і размежавання літаратур, у залежнасці ад якой аказваецца і плённасць кантактаў, мэтазгоднасць запазычанняў.

**І ўсё ж тысячагоддзямі адладжаныя механізмы ўзаемадзеяння, заканамернасці прыцягненняў і размежаванняў, тыпалогію ў развіцці агульнага і своеасаблівага нацыянальнага ігнараваць не варта. Гэта, думаю, адназначна. Звернемся яшчэ раз да такога аспекту, як «блуканні паміж... руска-польскіх соснаў». Па волі лёсу светаадлюстраванне нашага народа на працягу стагоддзяў існавала не толькі ў родным слове. Да іншанацыянальных каштоўнасцей мы далучаліся апасродкавана. Больш таго, укараніўся і дагэтуль дзейнічае, так бы мовіць, «запазычаны прыём запазычанняў», з выкарыстаннем тых самых шораў, паўтарэннем усіх выдаткаў і пераносам усіх памылак, якія былі ў нашых «сувязных», у літаратурах-пасрэдніках. Хіба мы наладжвалі раней сталыя кантакты з культурамі Усходу, мелі навуковыя і творчыя ўзаемаўплывы, ці хоць нават проста знаўцаў тых моў і літаратур, якія далі рубаі, танка, хоку? Хіба не парадокс, што вядзецца нібыта палеміка вакол з'яў культур, вакол жанраў і формаў, пра якія нам не было дадзена скласці сваіх уяўленняў? Ці не след спакойна і памяркоўна разабрацца, улічваючы «змены ў грамадстве і змены ў хайку», паважаючы адзін аднаго, а таксама выдаўцоў і чытачоў, хоць бы ў тым, якая розніца ў танка і хоку японскіх і абруселых, а потым абеларушаных. Японцы (як сцвярджаюць яны самі) маюць іх як ЖАНРЫ з даўжэзнай гісторыяй, заблытанай эвалюцыяй, у якую кожная эпоха ўкладала свой змест з кананізаванай тэматыкай, пабудовай, паэтыкай, абумоўленай нацыянальным ладам мыслення, рытуальнай сімволікай, сваімі законамі тыпізацыі, алегарызацыі, толькі ім уласцівымі спосабамі і сродкамі асацыятыўнасці. У той час калі руская і іншыя літаратуры перанеслі, пазычылі, асвоілі не жанр, а форму, дакладней яшчэ — адну з формаў у выпадку хоку. Мы ў сваю чаргу такую форму спрабуем падаць як формулу, дзе будуць падстаўлены нашыя значэнні.**

Нікуды не дзецца, маем тураўскія дыскатэкі і кобрынскую піцу, але гэта не значыць, што неабходны кадрылі кітайцам, дзёруры літоўцам, готыка эскімосам і што яны жыццяздольныя. Зноў не абмінуць радаводных законаў: творчы дух зыходзіць ад сваіх багоў, абжываецца на сваёй зямлі, перадаецца і прымаецца сваім народам. І нікольні не памыляецца шаноўны аўтар «Нататак пра мініяцюру», калі насуперак галоўнай сваёй ідэі занатоўвае: «...У кожнай паэзіі ёсць творы неперакладныя, ёсць вобразы, якія не маюць адэкватнасці ні ў адной з іншамоўных паэзій, за іх кошт і існуе паэзія пэўнага народа на пэўнай мове». Выходзіць, можам мы спаразумецца, абодва ўсведамляем, што паэзія між іншых жанраў літаратуры — самая нацыянальная справа па духу і матэрыі.

На маю думку, да танка, хоку гэта яшчэ больш прыстае. Ужо таму, што нават даведачная наша літаратура заблыталася ва ўжытку самых найменняў «хоку — хайку —хайкай», зусім не сінанімічных. Невыпадкова найбольш адданыя, але асцярожныя прыхільнікі такой формы пазбягаюць гэтых назваў, замяняючы на «трехстишия», «тристишия» ў рускай мове, «трилисники» ва ўкраінскай. Ды гэта яшчэ не ўсё. Французскі навуковец Р. Эцьямбль у салідным акадэмічным выданні бярэ на сябе адказнасць сцвярджаць (асцерагаюся перакладаць з перакладу і працытую па-руску): «Хайку отнюдь не составляет трехстишия, это моностих».

У нататках «А беларусы нічога не маюць?» прагучала крыўда на выдавецтвы, якія не далі ўбачыць свету «падрыхтаванаму да друку зборніку хайку беларускіх паэтаў». Крыўду можна зразумець, гэтаксама як і прапанову «працытаваць урыўкі з рэцэнзіі і рэдактарскага заключэння». Я, прызнацца, не супраць, каб гэтыя водгукі былі аб'яўлены. Цалкам і не «дзеля жарту». Пытанне ж сур'ёзнае. А пакуль што дазволю сабе працытаваць толькі цвярозае меркаванне адносна падобнай з'явы: «Калі я бачу маладых амерыканцаў, якім схацелася быць будыстамі, я адчуваю, што яны спрабуюць пераскочыць мяжу, якую перадолець ім не дадзена. Проста яны з маленства не тое елі, пілі не тую ваду і глядзелі не на тыя краявіды, і іхні мозг фарміраваўся не на той мове. Мы мацней, чым нам здаецца, прывязаныя да свайго кола культуры, традыцый, да сваёй існасці. Дзеля пачатку патрэбна зразумець сваю прыроду» (К. Занусі, інтэрв'ю «ЛГ»).

Калі б кніга хайку ўбачыла свет, які клінам не сышоўся на адным выдавецтве, адным рэцэнзенце і адным рэдактары, усё роўна засталіся б тыя самыя пытанні. І трэба было б чытачу ўцямна тлумачыць, нашто пазычылі — нават не сапраўдны, а ліцэнзаваны — канон, які ў саміх японцаў па цюцельцы вызваляецца ад сваёй кананічнасці, а ў нас кананізуецца менавіта тымі, ад каго чакаюць Паэзіі. Такой, якой ніякім брыгадным падрадам не наклепеш і якая па заказе індывідуальным, незалежна ад высакародных асветніцкіх мэт не заўсёды атрымліваецца.

Я свядома з самага пачатку ад лініі нашай размовы адлучаў пытанне пра Алеся Разанава. Лічу, што гэта з'ява зусім іншага парадку. Дапускаю, безумоўна, падыходы з розных бакоў і не думаю заяўляць, што магу вытлумачыць паэта лепш за яго самога ці крытыкаў-папярэднікаў. Адно павінен зазначыць: не бачу патрэбы праяўляць прыкрую «нацыянальную рысу», «скардзіцца, ныць і плакаць», даказваючы, нібыта скрозь у загоне жыве разанаўская квантэма, бо яна ў нас, на Беларусі, нарадзілася. Як многім вядома, творы А. Разанава маюць вельмі шырокае і ўдзячнае кола чытачоў на Радзіме і за межамі — чытаюцца, аналізуюцца, перакладаюцца ягоныя і квантэмы, і версэты. Больш таго, давялося чуць, што на семінары маладых набіралася ўжо з дзесятак версэтапісцаў. Толькі мяне гэта не радуе, бо сам Алесь Сцяпанавіч бараніўся ад «за-вершаных вершаў». Ён, па-мойму, паслядоўны прыхільнік верша, вольнага шмат ад чаго, што перашкаджае захаваць натуральнасць маўлення і разгортванне думкі, спантаннасць вобразатворчасці. Нездарма пра аб'яўленую няшчаснай квантэму тлумачыў: «Квантэма: вонкавая прастора пераходзіць ва ўнутраную». І гэта, заўважу, не тое самае, што можа адбыцца пры перайманні хоку і пры спробе «ператварыць квантэму ў хайку».

Паспрабуем закончыць тым, з чаго паважаны калега пачаў. Чаго ж мы не маем? Найперш грунтоўнага ўяўлення пра сябе, гэта значыць — філасофіі нацыянальнага мастацтва. А што да астатняга, спынімся на мудрасці, выказанай у тым самым вершы, які мы расцягалі сабе на загалоўкі:

**Шчасце так рэдка над светам**
**усходзе;**
**Усё ж досыць бывае меці**
**хоць мала...**

---

**ведамляецца пра наш час: асабістае жыццё герояў, мужа і жонкі Ганчарыкаў, адлюстроўвае і грамадскае быццё. Узаемасувязь не дэкларуецца, а падаецца падтэкстам, дасягаецца сродкамі мастацкага паказу.**

**І няхай гэта будзе шум-гоман на двары пасля футбольнай баталіі. Ён літаральна ўрываецца ў нарыс: «...з-за дома насупраць на ўсю шырыню вуліцы, запруджваючы яе няспынным вірлівым патокам, выкаціўся, як апантаны, вялізны натоўп мужчын. Моцна тупаючы нагамі, цягнучы горлам нейкі бессэнсоўны жывёльны крык, ён пракаціўся ля сквера, абагнуў яго і схаваўся за паваротам вуліцы. І ў гэтым тупаценні ног, і ў бессэнсоўным гарланні ўсё роўна як ачмурэлага чалавечага статка было нешта такое першабытнае, дзікае і такое пагрозлівае...»**

**Адна дэталь, а як праўдзіва гучыць твор! З друку сёння мы ведаем, што сляпая энергія «балельшчыкаў» на многіх стадыёнах свету ператварылася ў крывавае месіва. А што будзе далей, калі фізічныя і духоўныя сілы людзей будуць працаваць на халастым ходзе?**

**Любячы людзей, пісьменніца была адорана вялікай здольнасцю разумець іх. Увагу В. Палтаран прыцягнуў нялёгкі жаночы лёс. Прычым цяжкасці яго вынікаюць у першую чаргу з бытавых штодзённых абставін, якія ў рэальнасці далёкія ад ідэалу. Ніна Іванаўна — выкладчыца ВНУ, здольны чалавек, марыць абараніць дысертацыю, але яе сілы высмоктвае быт, які ў нашай краіне яшчэ, на вялікі жаль, цяжкі і зусім неўладкаваны. Нарыс нездарма заканчваецца неспакойным сном гераіні: «Ёй снілася, што яна набірае ў калодзежы і ніяк не можа набраць поўнае вядро вады... Зачэрпне, здаецца, паўнюсенька, выцягне — толькі палавіна...» Якая горкая і зразумелая сімволіка!**

**Чытаючы нарыс, заўважаеш, што пісалася жыццё з пільнай і добрай увагай. Пра сваю гераіню — Ніну Іванаўну — пісьменніца ведала ўсё да драбніц: псіхалагічныя, імгненныя пераходы настрою, самыя тонкія збегі эмоцый аўтарка перадала дакладна і натуральна, як бы між іншым. Ці не ёсць такое разуменне — сведчанне сапраўднага, моцнага таленту, у тым ліку чалавечага?**

**Тое, што В. Палтаран заўсёды ўмела слухаць чалавека, любіла даць яму свабоду вызначыцца, выказацца самому, мы ведалі даўно. Змешчаныя ў кнізе нарысы «Дзівасіл», «Ключы ад сезама», «На зямлі палескай» ужо друкаваліся. Аб іх неаднойчы пісалі. Асабліва шырока і пераканаўча — Рыгор Шкраба. Цешыць сябе ілюзіяй, што скажу нешта новае пра майстэрства гэтай самабытнай пісьменніцы, не буду. Любоў да людзей, аб якіх яна пісала, — у кожным слове, у кожным душэўным руху. Адно паўтару: «жаночая» тэма — любімая для В. Палтаран. Не так сабе запомніліся нам: бабка з Палесся, якая «лавіла» ў кішэню нямецкія кулі і такім спосабам ратавала людзей ад смерці; Еўка, якая вучыла піць малую цялушку «з пальца»; цётка, якая, ратуючы карову, знявечыла сабе руку; Ягораўна і Стахванаўка, якіх вайна зрабіла адзінокімі і спадзявацца ім няма на што; Ніна Іванаўна, якая ніяк не асвойтае стратэгію і тактыку сучаснага штодзённага побыту...**

**Доўжыць пералік? Можна. Але галоўнае ў тым, што вызначэнне мастацкай літаратуры як чалавеказнаўства цалкам стасуецца з нарысамі В. Палтаран. У гэтым змогуць пераканацца ўсе, хто возьме для чытання яе новую кнігу.**

**В. Палтаран пісала пра людзей шаноўных, вядомых у нашай рэспубліцы і за яе межамі: Р. Шырму, І. Мележа, А. Адамовіча, І. Пташнікава, М. Стральцова, А. Кулакоўскага, Я. Раманоўскага, Я. Будзінаса. Ёй лёгка было замяніць крытыку, мастацкае слова звычайным разборам, патэтыкай з большым або меншым набліжэннем да заздароўнай стылістыкі грузінскіх тостаў. Але падмены не адбылося. В. Палтаран ні патаемна, ні яўна не лічыла, што літаратура, аб'екты ўвагі — толькі падстава для самавыяўлення. Наіўнай спробы самасцвярджэння не заўважаецца ў пісьменніцы нават у маладыя гады. Лепшай падставай для таго, каб выказацца, было для яе глыбокае разуменне тэксту, чалавека, яго справы, усяго таго, што за імі стаіць, — часу, гісторыі. Дакладнасць, аб'ектыўнасць сэнсу — вось прыгожая вабнасць яе пісьма!**

**Але часам яна пераступала дарогу сваёй жа развазе. Неяк недарэчна гучыць, скажам, у рэцэнзіі на кнігу М. Стральцова такое вось прызнанне: «Муза Стральцова — думка. Нястомная, смелая, дапытлівая і неяк нязвыкла бачыць яе... на карачках. Нават перад Скарынам». Па-першае, перад гэтым чалавекам, які зрабіў столькі добрага для сваёй Айчыны, для свайго народа, — і ўкленчыць не грэх. Па-другое, у хадзячую сентэнцыю думка М. Стральцова ніколі не ператваралася. Сама ж крытык сцвярджала: «Утаймаванне дысгармоніі эмацыянальным выбухам, пераадоленне душэўнай скрухі, пачэрпнутае ў народным светаўспрыманні, вельмі характэрна для Міхася Стральцова».**

**Звычайна Палтаран не збівалася на скарагаворку, паступова пранікала ў сутнасць і складанасць жыцця. З цікавасцю, напрыклад, чытаецца, перачытваецца ўсё пра Івана Пташнікава. Аб ім крытык пісала многа. Гэты пісьменнік, нібыта знарок, шмат гадоў вярэдзіць сваёй яркай адметнасцю густ пэўных чытачоў і крытыкаў.**

**Успрыманне кансерватараў Палтаран «супакойвае» па-чалавечы проста: «Наша рэакцыя на стыль Пташнікава, у прыватнасці на стыль рамана «Алімпіяда», почасту нагадвае рэакцыю сыраеда, перад якім паставілі місу добра ўсмажанага, з усімі прыправамі мяса— адразу жэст адхілення: не ем! Ну, не ясі, дык і не трэба, ніхто цябе не просіць, але шкада цябе, другога, душы тваёй шкада, не абнашчыцца яна, не прычасціцца тымі глыбачэзнымі жыватворнымі эмоцыямі, якія нараджае сапраўдная літаратура, не загарыцца радасцю і гонарам за душэўную і духоўную веліч чалавека, не апячэцца чалавечым болем, горам чалавечым, каб адчуць, што жывая».**

**...За апошнія гады ў айчыннай культуры падобнага выдання-дакумента, як «Чалавек на вятрах часу», здаецца, не было. У кантэксце ўсёй беларускай мастацкай літаратуры гэта — з'ява. Шкада толькі, што Вера Палтаран ужо ніколі не ўбачыць сваю навінку.**

**Святлана МАРЧАНКА.**

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**



## У краіне цудаў

У краіне дзіўных цудаў,
Як у храме на крыві,
Хабараў і даўгабудаў,
Алкаголікаў і юдаў
Век пакутуй, а жыві.

На каго спярша маліўся,
Праклінаў таго пасля,
Хто людской крывёй апіўся,
Хто сілком наверх прабіўся,
Праглынула тых зямля.

Кормчыя і рулявыя
У апантанай барацьбе,
Маразматыкі сівыя,
Што узносіла стыхія,
Ўзнагароджвалі сябе,

Выхваляліся, хлусілі,
Абяцанкамі жылі,
Зоркі ў два рады насілі,
Хоць не жалі, не касілі,
Смачна елі і пілі.

Урачыстыя калоны
Іх віталі, як нідзе,
Ашуканыя мільёны
Прывучыліся штодзённа
Жыць на хлебе і вадзе.

Абвяшчалі рулявыя,
Што жывем шчасліва мы,
Толькі людзі, як нямыя,
Ведалі шляхі прамыя
Ад турмы і да турмы.

У краі суцэльных цудаў,
Дэфіцытаў і пагроз,
Дзе і праведнік, і Юда,
І тубылец, і прыблуда —
Надзвычайны сімбіёз.

На адважным павароце
Стала трошачкі святлей,
Хоць пілюля ў пазалоце
І цяпер гарчыць у роце...

А куды ісці далей?

## Чужыя

Даўно ацураліся дзеці
І маці і роднай зямлі,
Даўно разбрыліся па свеце,
А шчасця нідзе не знайшлі.

Ім сняцца прысады уранку
І след на світальнай расе,
Шалёны віхор, што буслянку
Раскідаў ушчэнт на страсе.

Ім сняцца пахілыя вербы,
На дальнім пагосце — крыжы,
Забітыя вокны і дзверы
І горкае слова «чужы».

Чужы на бацькоўскім парозе
І на заараной мяжы,
Чужы на зарослай дарозе
І на раздарожжы чужы.

І ўжо не ўратуюць замовы,
Малітвы і зёлкі,
калі
Сваёй адцураешся мовы
І маці, і роднай Зямлі.

## Вечныя

Анёл цішком ператварыўся ў д'ябла
І свечку прамяняў на эшафот,
Яго рука ні разу не саслабла,
Калі данос шаптаў Іскарыёт.

Прызначылі высокую зарплату
Адступнікі і хцівыя мужы
І Юду, і няўмольнаму Пілату
За кожную ахвяру на крыжы.

Займалі часта троны супастаты,
Мяняліся цары і каралі,
Мяняўся свет, а Юды і Пілаты
Дагэтуль не звяліся на Зямлі.

## Абяцанні

Абяцанка-цацанка...
Прыказка.

Я чуў, як выхваляўся чалавек,
Калі маўчалі ўсе зацята,
А ён, здавалася, на здзек
Даводзіў, быццам верыць свята
У тое, што было і ёсць,
І што для нас калісьці будзе,
А ў сэрцы закіпала злосць,
Што верылі яму і вераць людзі.

Яго запал дагэтуль не суняць,
Бо бачыць ён усё ў ружовай прызме
І пнецца, каб нічога не мяняць,
Бо сам даўно жыве пры камунізме.

## Вінаватыя

І крот з нары нарэшце збег
Раскрыўшы правакацыю,

**Валянцін АКУДОВІЧ**

# ПОКАЗКІ

## Ліст у рэдакцыю

Цяжка быць дурнейшым за самаго сябе, але суседзі мяне пераканалі:

— Інакш з цябе пісьменнік не атрымаецца.

І сапраўды. Ужо наступнае маё апавяданне без аніводнай заўвагі прынялі ў часопіс і нават ухвалілі:

— Ну вось, нарэшце вы знайшлі сябе — і адразу поспех.

А суседзі зноў:

— Дурняў друкуюць пры жыцці, а вар'ятаў і пасля смерці.

Я пазычыў пугу і цяпер кожную раніцу выганяю аблокі на пашу. З пугаю на плячы я валэндаюся па краі ад золку да сутоння і пільную, каб аблокі не вылузнуліся за небакрай. А ноччу, калі аблокі і людзі паснуць, я запальваю газнічку і, падхапіўшы матыля на гусінае пёрка, сягаю ў мроі. Аднак і там, лунаючы, я ніколі не забываюся на межы дазволенага апошнімі пастановамі. Яшчэ за тры крокі да прадоння я абрываю матылю крылы, бо мой рэдактар павінен быць упэўнены, што ад майго розуму яму не прыбудзе лішняга клопату. Вось чаму мне вельмі не падабаецца, што сёй-той на вёсцы кажа: бачыш, які разумны ў Васіля сын. Мы з паперай за хлеў ходзім, а ён з яе грошы робіць. Не, не трэба мяне лічыць надта разумным. Ніхто не ведае, як яно далей абернецца, а я хачу сваёй смерцю памерці і на бацькаўшчыне, а не заўчасна на паўночных скразняках.

Што да астатняга, то справы ў мяне, як кажуць, каб лепей — дык навошта. Хутка пабачыць свет мая першая кніжка. У рукапісе яна мела назву: «Ідыёцтва». Рэдактар, які працуе над маім рукапісам, даволі прыязна ставіцца да мяне, але ён катэгарычна супраць назвы. Я не пераканаў яго нават тады, калі ўспомніў, што ў Фёдара Міхайлавіча Дастаеўскага ёсць раман пад назвай «Ідыёт».

— То ідыёт, а то — ідыёцтва, — магчыма, і слушна запярэчыў рэдактар.

Чытачам штотыднёвіка я прапаную некалькі абразкоў з маёй першай кніжкі, якая хутчэй за ўсё так і не выйдзе пад назвай «Ідыёцтва».

## «На Беларусі бог жыве...»

Аднойчы той, хто стварыў усё ў першы раз, паклікаў да сябе нашых хлопцаў і кажа прыкладна так:

— Надта вы разумныя, хлопцы. І гэта вам не падабаецца і тое не так. Апрыкла мне слухаць дурную лаянку. Давайце свае прапановы, а потым паглядзім, ці добра будзе?

Пачалі хлопцы выдумляць. Адзін пра кісельныя берагі, другі пра малочныя рэкі, трэці пра гаючую ваду ў кожнай студні. А чацвёрты кажа: каб нічога не хацелася.

Вярнуліся хлопцы ў вёску, а там ужо баль, як гай шуміць... Дзень шуміць, два шуміць, сто год шуміць. Стрэхі ў хатах паабвальваліся, на дарогах пушча вырасла, а мы і гора не ведаем. І так нам добра, што словам не выказаць. Таму мы на мову сталі забывацца і рохкаць пачалі.

Але яшчэ лепей было чацвёртаму. Ён нават да ветру не меў патрэбы хадзіць, бо і гэтага не хацелася.

Цяпер ужо цяжка сказаць, калі гэтая выгода скончылася. Толькі аднойчы той, што ўсё можа, выглянуў з-за хмурынкі і пытаецца:

— Ці добра вам, хлопцы?

А мы маўчым, бо ўжо ад слоў адвыклі, а рохкаць перад чужым сорамна.

Тады ён мацней:

— Ці добра вам, пытаюся?

Перапалохаліся мы і напэўна ад страху загаварылі па-чалавечы:

— Ой не, нядобра нам.

— Дык якога вам ражна яшчэ патрэбна?

— Аддай нам нашыя пакуты, — просім.

Аддаў — не шкадуючы. Даведаліся пра нас у іншых месцах, расцерабілі на былых дарогах пушчу і сышліся сюды жабракі і недалэнгі з усяго свету. Патапталі кісельныя берагі, выпілі салодкую рэчку, вычарпалі ўсю гаючую ваду ў студнях і нават пясок у торбы пассыпалі — адно дзіркі засталіся.

Нарабілі шкоды і пайшлі. Нічога нам не пакінулі, акрамя дарогі цераз пушчу. Пагаварылі мы, ды няма чаго рабіць. Ускінулі на тачку таго, які нічога не хацеў, і пацягнулі за валацугамі ў свет. Толькі недалёка мы адышлі, бо раптам той, што піхаў тачку, заўпарціўся:

— Навошта яго валачы невядома куды, калі яму ўсюды аднолькава добра?

І сапраўды. А з другога боку, як чалавека аднаго кінуць?

Тут яшчэ нехта кажа: хіба мы цыганы, каб на дарозе нараджацца і паміраць?

Таксама праўда. У нас ёсць свая зямля і на нашай зямлі бог жыве.

Тады той, што заўпарціўся першым, гаворыць:

— Давайце апошні раз яго папросім: каб нам усім нічога не хацелася.

Так і зрабілі, і засталіся на сваёй зямлі. І што потым ні здаралася — злодзеі прыйдуць, халера ці канец свету, нам усё добра. Другія людзі глядзяць на нас і нічога не разумеюць. Нават той, які ведае ўсё, што было і што будзе, далей дзівіцца і часам перапыніць каго ды пытае:

— Можа, табе чаго-кольвек хочацца?

— Не, нічога не хочацца. Як ёсць, так і добра, — адказваем мы. І то праўда. Чаго хацець, калі нічога не хочацца?

## Эпітафія

Калі ветрык быў кволы, а сонца неміласэрнае, зграя аваднёў абсела яго з усіх бакоў. Урэшце ён не вытрываў і кінуўся наўцёкі. Ён бег так хутка, што вылуснуўся і са сваёй скуры і са свайго часу. Там, дзе яму не стала сіл бегчы далей, ён зрабіўся каменем.

Як толькі ён знерухомеў, авадні закрычалі: «Ура!» (адзін крыкнуў: «Віват!») і ўскінулі свае джалы... Але замест цёплай крыві ў пашчу шуганула пякучае полымя і авадні зніклі, як быццам іх ніколі не было.

А ён застаўся. Да яго туліліся маланкі і завеі, здані мінулага і прывіды будучыні, толькі ён выбраў раллю. Яна вольна раскінулася насупраць і яе тлустыя сцёгны спакусліва калыхаліся, натхняючы да пяшчот юрлівае сэрца.

Пакутлівым было ягонае каханне. Усім цяжарам нерухомай любові ён імкнуўся аблашчыць каханую ад першага да апошняга грудка, аднак чым мацней яму хацелася, тым глыбей ён урастаў у зямлю. Калі парэпаная, здранцвелая зямля ахапіла яго па самае чэрава, ён крыху супакоіўся і пачаў перакладаць у вершы лёс стагоддзяў і сваё каханне да раллі...

Вялікімі святамі мы ішлі да каменя, які ляжаў, як прыступка ў вечнасць, ва ўлонні Беларусі, і маліліся там, а ў віхурныя дні прыходзілі да яго вастрыць косы і сякеры.

Мы не ведалі, аб чым ён думаў, але нам было лягчэй трываць нястачу жыцця побач з яго трываласцю. Затое птушкі і звяры чулі ўсё, аб чым ён маўчаў. Буслы разносілі нізкі ягоных вершаў па вёсках і пакідалі ў калысках немаўлят, а тыя радкі, што губляліся па дарозе, хлопцы заплялі ў грывы коней і дарылі дзяўчатам разам з пацалункамі.

Мінула яшчэ колькі там часу і мы ўсе, і старыя і малыя, загаварылі ягонымі вершамі пра лёс стагоддзяў і каханне да раллі. І як толькі мы так загаварылі, то кінулі на момант работу і самым мяккім жалезам, якое знайшлося ў кузні, выціснулі на камені:

**Уладзімір Караткевіч**
**Чалавек**
**Беларус**
**Паэт**

...На гэтым я збіраўся скончыць сваю немудрагелістую гавэнду, але тут успомніў... Калі мы з песняй «Бацькі з магіл цяплом дыхнулі» разыходзіліся па хатах, адзін з нас нечакана спытаў: «Што было б з раллёй, каб камяні маглі рухацца?»

Здаецца, ніхто, акрамя мяне, не звярнуў увагі на словы таго чалавека. І ўжо напэўна адзін я пашкадаваў аваднёў, якія і сёння гараць у пякельным агні за тое, што выгналі яго ў бессмяротнасць...

# МАШТАБНЫ ДРОБНЫ ЧАЛАВЕК



**Аляксандр Гарцуеў у спектаклі «Вар'яцкае жыццё»**

Вы чулі пра такі горад Новацяперск? І я не чула. А Кулебу ведаеце? І я да апошняга часу не ведала. І ён жа мяне, як і вучонага Жолуда, апантанага ідэяй уратавання ўсяго свету, і ягоную далікатную жонку-настаўніцу першы раз бачыць. Дык чаго ж, чаго, хай сабе і з перапою крычыць, зневажае? Чуеце... Гэта пра нас:

— Пакуль мы вас, падонкаў, якія строіць і жыць не памагаюць, у парашок не састром!!!

Чым не булгакаўскі Шарыкаў пры пасадзе? Зняваж другога — узвысішся сам. Так і карціць выгукнуць: «Ды папраўце свой чырвоны гальштук! Штаны абцягніце, каб не зырчэлі ў колер яму шкарпэткі. І капялюш здыміце! Вы ж смешны!..» Смешны? Страшны. Страшны для тых, хто знаходзіцца побач з ім на сцэне. І гэта адчуваеш амаль фізічна... Хам у храме...

Аляксандр Гарцуеў не пагарджае сваім героем. Ён, падобна, паспрабаваў па-гогалеўску адшукаць не ў кім-небудзь, у самім сабе вірус мяшчанства, бюракратызму і... дэталь за дэталлю ўзгадаваў яго, павялічыў да памераў свайго двайніка-антоніма.

Зрэшты, толькі так і робяць сапраўдныя інтэлігенты...

Даўно ведаю Аляксандра Гарцуева як выдатнага, тонкага выканаўцу лірычных, у тым ліку і сваіх, песень, ведаю, як вострахарактарнага акцёра (адна з самых яркіх ягоных работ за апошні час — «Тарас на Парнасе» на Беларускім тэлебачанні). Бачыла практычна ўсё, што ён іграў на купалаўскай сцэне. І не магу пазбыцца пакутлівага адчування, што нават сапраўды бліскуча выкананыя эпізоды і глыбокія ролі (згадаць хоць бы кранальнага, па-чалавечы вельмі дакладнага Мішэля з «Жудасных бацькоў» Както) для А. Гарцуева як адзежынкі з куртатымі рукавамі. Яму даводзіцца іх цярпліва падвязваць, перашываць гузікі, падганяць пад свой рост...

Можа, вобраз Кулебы дасць магчымасць акцёру максімальна выявіць свае вынаходлівасць, інтэлект і нават душэўную тонкасць?

Цяпер і ў літаратуры, і ў кіно, і ў тэатры пануюць не малыя, але дробныя і пустыя героі. Такія, як стракаты модны папугайчык Саша Панамароў (яго гратэскна ўвасобіў А. Гарцуеў у «Вяртанні» Э. Трапіева). Такія, як Кулеба.

Яго, удрызг п'янага ў кватэру інтэлігента Жолуда завозіць на колах жанчына самай цяпер папулярнай у нашай краіне і, як сцвярджае прэса, самай старажытнай у свеце прафесіі Люся (Н. Качаткова). Люся і Кулеба, а дакладней акцёры, якія выконваюць іхнія ролі, вядуць дыялогі проста віртуозна. Са смакам вымаўляюць слоўцы і словы-паразіты, вульгарна жэстыкулююць. Як кажуць, свой свайго... І па паходжанні, і па сваім становішчы ў грамадстве — на чорным і белым рынку — яны роўныя. Яны гаспадары жыцця, і чаго ім зрэшты нас, бедных, саромецца?.. З Люсяй усё проста. А вось з інтэлігентамі Кулебу ўвесь час даводзіцца нахабнічаць. Хамствам лягчэй за ўсё задушыць, а калі і перамагчы інтэлект... Згадайце нашага слыннага Гарлахвацкага. Толькі герой Аляксандра Гарцуева, духоўны патомак Гарлахвацкага, «квітнее» не ў сталінскі, у наш час. І агентаў ён не баіцца, і навуковай працы яму, каб утрымацца на сваёй пасадзе, ніякай не трэба. Значыць і на Тулягу яму пі-лю-ва-ць... Кулеба не мітусіцца. Ён спакойны і разняволены. Але і ў п'янага яго, акцёр гэта міжволі вылучае, ёсць нешта грунтоўнае, маштабнае. Пастава, жэсты... Ён не ляжыць, «вазляжыць», як мовіў бы ён на сваёй улюбёнай трасянцы, і на падлозе, і на канапе. Ды яшчэ рукою-нагою водзіць — танцуе пад радыё... Ні інтэлігент Жолуд, ні мы, гледачы, вышэй за правінцыйнага бухгалтара гэтаму чалавечку з партфелем пасады не далі б. А чаму? Таму што былі асляплены белаю фарбаю? Таму што высакародная дэпутатка Марыі Захарэвіч у «Верачцы» А. Макаёнка была апранута ў белы-белы касцюм з ярка-чырвоным прышпіленым як мае быць значком? Проста жывёльны жах з'явіўся ў вачах Кулебы, калі ён згубіў гэты знак свае над намі ўлады...

Цяпер тэатр метадычна апранае абраннікаў народа ў чорны, дакладней, шэры колер... І мы зноў слепнем...

Кулеба, як ашалелы, шукае апахмяліцца, на каленях прыніжана невядома каму заклінае: «Бярыце ўсё!», а потым, у рэшце рэшт, гвалціць гаспадыню, жонку Жолуда. А што яму да нас? Ён абвыкся. І ў ягоных напачатку заплюшчаных, потым бессэнсоўна акругленых, настаўленых сп'янелых вачах ужо з'явіўся жывы агеньчык... Ён, Кулеба, і тут, у чужым горадзе, чужой кватэры,—гаспадар.

Ён не проста дробны. Ён маштабна дробны чалавек... І таму, прыхапіўшы плюшавага Мішку, паважна падымаецца па прыступках... На трыбуну? Можа, і на трыбуну... Пры значку, пры чырвоным гальштуку, пры капелюшы... Падымаецца, каб вымавіць ці не першую сваю прамову не па паперцы. Ад душы... Зручна ўсё ж калінікалі хай сабе і з перапою, выплюхнуць на людзей усю сваю жоўць...

«Усе пытаюцца: «Дзе камунізм?» Здаецца ж, побач быў... Руку працягні...» Кулеба ведае, чаму няма камунізму: «А з кім будуем? Са мною... З імі, з табой, Міхаіл...» І тут горкая разважанасць, зняважлівая іронія змяняюцца ярасцю. Пантофляю роднае сваёй новацяперскае фірмы «Бальшавік» на трыбуне, па трыбуне: «Пакуль мы вас усіх, і цэнтрыстаў, і нацыяналістаў, і нефармалаў!»

Колькі іх, Кулебаў, сядзіць па кабінетах, выступае з трыбун! Кругляvenькія, абачлівыя, трошкі дэмакраты, трошкі рэакцыянеры... Не малыя, дробныя чалавечкі, «колцы і шрубкі» — начальнікі калгасаў, заводаў, выканкомаў, установ культуры. Тыя самыя, што не аруць, не сеюць, не будуюць... А ўсё ганарацца, ганарацца, ганарацца светлаю будучыняй. Яны ўсе надзіва падобныя. І калі, як Кулеба, спрабуюць шкадаваць дзівака-інтэлігента, што хоча ўратаваць Новацяперск ад землятрусу: «А нейкі ты няўдачлівы, мужык»... І калі бяруцца расказваць пра родны горад, пра крымінальнікаў, што прыходзяць да іх на прыём... І выходзіць у іх, бедных, не споведзь—павучанне...

Інтэлігенты ў вар'яцкім доме. Кулеба ў Новацяперску, Брагіне, Гомелі, Мінску... Коціцца па дарожцы калабок з партфелем...

Сёння, будзем шчырымі, тэатр адстае ад жыцця. І мне чамусьці здаецца, што ў студзені аншлагі мелі не прэм'ерныя спектаклі «Вар'яцкага жыцця», а тэлерэпартажы З'езда народных дэпутатаў. Сёння мы можам адстояць сваю пазіцыю. Не ў цытадэлі ўлады, дык на старонках газет, на мітынгу. Хай сабе мы не маштабныя, але ж і не дробныя людзі. І ў кожнага з нас ёсць пачуццё ўласнае годнасці.

**Галіна БАГДАНАВА.**

Я АБАВЯЗАНАЯ гэтай спявачцы не толькі многімі мастацкімі ўражаннямі, але і вялікай чалавечай ўдзячнасцю. Нас звязвае з ёю агульная справа — Клуб сяброў оперы. Як адзін з арганізатараў клуба, з поўнай адказнасцю магу сцвярджаць, што шматгадовае паўнакроўнае яго існаванне, нязменная цікавасць аматараў вакальнай музыкі жывяцца творчай энергіяй і самаадданасцю такіх, як Наталля Руднева.

Сярод самых значных яе работ — партыя Джульіі ў спецыяльна для Клуба пастаўленай оперы В. Губарэнкі «Альпійская балада». Не менш шчодрым дарам Н. Рудневай Клубу сталася выкананне трох выдатных вакальных цыклаў — «Песень пра памёршых дзяцей» Г. Малера, «Рускага сшытка» В. Гаўрыліна і «Песень і танцаў смерці» М. Мусаргскага. Глыбіня і сур'ёзнасць інтэрпрэтацыі найскладанейшых твораў, рэдкая артыстычнасць падачы зрабілі тыя вечары незабыўнымі не толькі для мяне... А яшчэ былі дзве самастойныя вялікія канцэртныя праграмы, прычым калі першая, паказаная вясной 1985 года, была старанна падрыхтаваная, дык другая склалася стыхійна ў даволі драматычных абставінах.

**Той вечар, якім Клуб сяброў оперы завяршаў сезон 1988—89 гг., варты, на маю думку, асобнай гаворкі. Акурат перад тым шасцёра салістаў нашага ДАВТа, у іх ліку і Н. Руднева, пабывалі ў Лондане, спявалі перад імпрэсарыо — дзеля магчымага заключэння кантрактаў. З усімі спеванамі была папярэдняя дамоўленасць, што ян прыйдуць на апошняе ў сезоне пасяджэнне Клуба, раскажуць пра паездку і пакажуць тое-сёе з праграм сваіх лонданскіх выступленняў. Зараз ужо цяжка ўспомніць, з якіх канкрэтна прычын, але спевакі адзін за адным пачалі адмаўляцца ад удзелу ў вечары. Апошнія адмовы мы атрымалі непасрэдна перад канцэртам, калі ў зале Дома мастацтваў ужо сядзелі радасна ўсхваляваныя члены Клуба з кветкамі. Заставалася адна Наташа Руднева, якую нават нельга было папярэдзіць пра надзвычайную сітуацыю, бо жыве яна без тэлефона... Што адчула спявачка, нечакана апынуўшыся перад дылемай: адпусціць ні з чым больш за сотню чалавек або замест трох-чатырох нумароў у запланаваным зборным канцэрце экспромтам выканаць цэласную праграму? Яна папрасіла некалькі хвілін, каб настроіцца і абгаварыць з канцэртмайстрам Аленай Васільчанкай парадак твораў, і выйшла да публікі.**

**Артыстка многа і добра, з поўнай аддачай, спявала ў той вечар — арыі, рамансы П. Чайкоўскага, С. Рахманінава. Здаецца, слухачы ацанілі самаадданасць выканаўцы і аддзякавалі, як маглі, — апладысментамі, слязамі на вачах, кветкамі, што прызначаліся шасцярым.**

А ў мяне разам з гарачай удзячнасцю Н. Рудневай за выратаванне вечара засталося і нейкае пачуццё віны: адчула сябе эксплуататарам. Адно суцяшае — гэтай спявачцы праца на Клуб не шкодзіць. Наадварот, пашырэнне камернага рэпертуару, авалоданне разнастайнымі музычнымі стылямі вытанчае яе інтанацыйнае майстэрства, узбагачае тэмбравую палітру, што адбіваецца, канешне, і на яе оперных партыях. Хаця сама спявачка, хутчэй за ўсё, і думаць не думае пра нейкую карысць. Проста яна з тых, хто прагне пазнаваць новае, пераадольваць «супраціўленне матэрыялу» ў імкненні да дасканаласці. Іначай навошта было Рудневай пры яе занятасці ў тэатральным рэпертуары вучыць малавядомы нават музыкантам вакальны цыкл Р. Шумана на вершы Марыі Сцюарт або ахматаўскі цыкл С. Пракоф'ева?

Дарэчы, у памяці ажылі падзеі нядаўняга мінскага фестывалю «Пяць дзён з Сяргеем Пракоф'евым», дзе Н. Рудневай давялося стаць сапраўднай гераіняй. Каб не яна, **пяць дзён** не атрымалася б — літаральна на валаску вісеў першы спектакль, «Вайна і мір». Раптоўна выбылі са строю адразу дзве нашы салісткі — мецца-сапрана, і на чатыры разлічаныя на такі голас ролі (Соня, Ахрасімава, Элен, княжна Мар'я) засталіся тры спявачкі.

**ПА СЛЯДАХ ВЫСТУПЛЕННЯЎ «ЛіМа»**

# І быў суд...

**У 1988 г. «ЛіМ» надрукаваў артыкул народнага артыста СССР лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР прафесара Я. Глебава «Спроба быць шчаслівым» (гл. нумар за 28 кастрычніка 1988 г.). Тая публікацыя выклікала водгукі, агляд якіх рэдакцыя змясціла пад загалоўкам «Канфлікт» («ЛіМ» за 9 снежня 1988 г.). Надзённыя праблемы, закранутыя ў артыкуле Я. Глебава, абмяркоўваліся за «круглым сталом», наладжаным у Міністэрстве культуры БССР з нагоды таго артыкула (гл. паведамленне «У Міністэрстве культуры БССР», нумар за 13 студзеня 1989 г.).**

**Тым часам кампазітар П. Альхімовіч, пра якога згадвалася ў артыкуле Я. Глебава, звярнуўся ў суд з іскавай заявай (на ёй дата 30 лістапада 88 г.). У заяве зазначалася, што аўтарам артыкула «Спроба быць шчаслівым» дапушчана паказанне звестак, якія не адпавядаюць сапраўднасці і няславяць гонар і годнасць істца.**

**Да суда, можа, і не дайшло б, калі б П. Альхімовіч звярнуўся са сваімі абвяржэннямі проста ў рэдакцыю. Гэта было б лагічна ў такой сітуацыі. На жаль, адбылося інакш, і застаецца толькі пашкадаваць пра змарнаваны (на працягу года!) у судовых пасяджэннях час.**

**Справа паводле іску Альхімовіча П. П. да рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва» і Глебава Я. А. пра абвяржэнне звестак, якія няславяць гонар і годнасць, разглядалася народным судом Партызанскага раёна г. Мінска ў складзе старшынюючага Кузьмянковай Э. І. і народных засядацеляў Верaскунова П. А. і Змачынскага А. Я., з удзелам адвакатаў Касяк Л. А. і Губскай Л. Ф. 1 снежня 1989 г. было вынесена рашэнне, копію якога атрымала рэдакцыя. Са зместам рашэння мы абавязаныя пазнаёміць сваіх чытачоў.**

**У ім выкладзена сутнасць іскавай заявы, а таксама пазіцыі адказчыкаў. Прынамсі, прадстаўнік рэдакцыі «ЛіМа», не падтрымліваючы іск, патлумачыў суду, што «ў рэдакцыі газеты не было падстаў не давяраць Глебаву Я. А. — аўтарытэтнаму музычнаму і грамадскаму дзеячу, даўняму аўтару газеты, які прапанаваў артыкул пра некаторыя надзённыя праблемы музычнага жыцця рэспублікі. У тым жа артыкуле выказваліся таксама заўвагі на адрас прафесійнага кампазітара Альхімовіча П. П. Аўтар артыкула Глебаў Я. А. запэўніў рэдакцыю, што цалкам адказвае за напісанае, бо факты, названыя ў артыкуле, агульнавядомыя, правераныя і што ён улічыў меркаванні і пажаданні людзей, якія ведаюць Альхімовіча як асобу».**

**Суд, «заслухаўшы бакі, сведкаў, даследаваўшы пісьмовыя матэрыялы справы, лічыць, што іск Альхімовіча П. П. падлягае частковаму задавальненню».**

**Судом устаноўлена, што «звесткі, змешчаныя Глебавым Я. А. у артыкуле... на падставе атрыманай інфармацыі пра наяўнасць «дасье» на калег, запісаў на магнітафон тэлефонных размоў, уключэння магнітафона на гутарцы з афіцыйнай асобай, з наступным іх выкарыстаннем у асабістых мэтах, адпавядаюць сапраўднасці. У суда няма падстаў абавязваць газету «Літаратура і мастацтва» публікаваць абвяржэнне дадзеных звестак».**

**Суд таксама «лічыць устаноўленым факт наяўнасці абразы шляхам накіраванага Багатырову А. В. ліста яго вучнем Альхімовічам П. П., як метад уздзеяння на яго ў асабістых мэтах, паводле якога праводзілася спецыяльнае расследаванне. Таму гэтыя звесткі, выкладзеныя ў артыкуле, адпавядаюць сапраўднасці. Змешчаную ў артыкуле заўвагу пра тэлефонныя званкі з прапановай скласці завяшчанне суд лічыць неабразлівай для істца. Таму суд адхіляе просьбу Альхімовіча П. П. пра абвяржэнне названых звестак».**

**Устаноўлены таксама «факт запазычвання маладым кампазітарам Альхімовічам у кампазітара Глебава—згодна экспертнаму заключэнню. Разам з тым, заўвагу пра гэта аўтара артыкула... суд не лічыць звесткамі, якія няславяць гонар і годнасць істца, бо паводле аўтарскага права... дапускаецца запазычванне пры стварэнні новага твора. Суд лічыць, што падлягаюць адхіленню іскавыя патрабаванні наконт абвяржэння звестак пра запазычванне».**

**Даследуючы пытанне пра звесткі наконт таго, што «ён не грэбуе наёмнай працай залежных ад яго студэнтаў...», суд звярнуўся да сведкаў. Ацэньваючы іхнія паказанні, суд «не знаходзіць падстаў сумнявацца ў іх аб'ектыўнасці... Падстаў абвяргаць апублікаваныя звесткі пра работу Альхімовіча П. П. са студэнтамі аркестравага аддзялення БДК няма».**

**Паводле матэрыялаў асабовай справы на студэнта Белдзяржкансерваторыі П. П. Альхімовіча судом устаноўлена, што пастановай «ад 5 ліпеня 1965 года оперупаўнаважанага АКВ ...старшага лейтэнанта міліцыі Буслаева... канстатуецца здзяйсненне Альхімовічам крадзяжоў грошай з кашалькоў студэнтаў і іншых асоб на агульную суму 33 руб., у сувязі з чым устаноўлена, што сваімі дзеяннямі Альхімовіч П. П. зрабіў крымінальнае злачынства,.. але з улікам таго, што ён у мінулым не быў судзімы і можа быць выпраўлены мерамі грамадскага ўздзеяння, і было адмоўлена ва ўзбуджэнні крымінальнай справы. У матэрыялах асабовай справы ёсць уласнаручна напісанае Альхімовічам П. П. вытлумачэнне... у якім ён прызнае гэты факт. З заявы студэнта Альхімовіча П. П. ад 17.09.65 г., пададзенай на імя рэктара Белдзяржкансерваторыі, аб ягоным адлічэнні з кансерваторыі ў сувязі са здзяйсненнем ім злачынства, відаць, што рэзалюцыя рэктара сведчыць пра адлічэнне Альхімовіча П. П. як злодзея... Разам з тым, нягледзячы на тое, што і сам Альхімовіч у судовым пасяджэнні прызнаваў наяўнасць дробных крадзяжоў у мінулым — у студэнцкія гады, аднак ён катэгарычна адмаўляе крадзёж баяна. Суд не мае дакладных доказаў гэтага...»**

**На падставе даследаваных доказаў па справе суд прыйшоў да высновы, што «артыкул Я. А. Глебава «Спроба быць...» з'яўляецца не метадам звядзення асабістых рахункаў з Альхімовічам П. П., а спробай аўтара, аднаго з кіраўнікоў саюза (на той час Я. Глебаў быў намеснікам старшыні праўлення. — Рэд.), разабрацца ў абстаноўцы, што склалася ў творчым калектыве Саюза кампазітараў БССР... Суд лічыць правамернымі дзеянні рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва», якая змясціла артыкул Я. А. Глебава.**

**На падставе ўсяго сказанага суд вырашыў ПРЫЗНАЦЬ ЗВЕСТКІ, РАСПАУСЮДЖАНЫЯ У АРТЫКУЛЕ Я. А. ГЛЕБАВА «СПРОБА БЫЦЬ...» ПРА ТОЕ, ШТО АЛЬХІМОВІЧ П. П. «ПАПАУСЯ НА КРАДЗЯЖЫ БАЯНА», НЯСЛАВЯЧЫМІ ЯГОНЫЯ ГОНАР І ГОДНАСЦЬ І НЕ АДПАВЕДНЫМІ САПРАУДНАСЦІ. Абавязаць газету «Літаратура і мастацтва» змясціць абвяржэнне паводле названага факта ў месячны тэрмін».**

**Што мы і робім у адпаведнасці з дакументамі, атрыманымі з суда. Пры тым, не парушылі тэрмін публікацыі, бо дакументы атрымалі толькі ў сакавіку, а з імі — даведку: «Вызначэннем ад 15 лютага 1990 года Судовай калегіяй па грамадзянскіх справах Мінскага гарадскога суда рашэнне народнага суда Партызанскага раёна г. Мінска ад 1 снежня 1989 года пакінута без змен, а касацыйная скарга (Альхімовіча. — — Рэд.) — без задавальнення.**

# Філасофія трагедыі ці трагедыя філасофіі?

(Пачатак на стар. 5).

**вельмі містычны характар, калі б «выпадковасці» не мелі аніякай ролі», аўтар працягвае: «Цяпер мы сутыкнуліся з магчымасцю такога становішча спраў, пры якім можа не адыграць ніякай ролі «неабходнасць», а выпадковасць вырастае да амаль містычных, апакаліпсічных маштабаў... Ці нічога асаблівага не адбылося, і неабходнасць будзе, як і раней, прабіваць сабе дарогу выключна праз хаос выпадковасцей, масу адхіленняў» (там жа, стар. 68)? Гэта значыць, інакш кажучы, аўтар прапануе не больш і не менш, як перагледзець фундаментальнае палажэнне матэрыялізму аб заканамерным характары грамадскага развіцця. Гнасеалагічным эквівалентам такога радыкальнага мыслення з'яўляецца абсалютная адсутнасць у ім дыялектычнага разумення сувязі неабходнасці і выпадковасці, пра што з выключнай яснасцю сведчыць тая самая «маса адхіленняў», з якой ён звязвае выпадковасць. Я не магу ўлазіць тут у падрабязны аналіз гэтай праблемы. Але каб даць чытачу ўяўленне аб усёй глыбіні гэтага «новага мыслення», праілюструю яго на канкрэтным прыкладзе.**

Любы чытач, несумненна, ведае (нават калі ён не ведае больш нічога), што ёсць аб'ектыўны фізічны закон, названы Ньютанам законам фізічнага прыцягнення. Згодна з гэтым законам, калі я кіну, скажам, каменьчык, дык ён павінен абавязкова ўпасці на зямлю. Па тэорыі верагоднасцей можна нават вылічыць, куды ён прыблізна ўпадзе. Цяпер уявіце сабе, што варона, якая пралятала міма, палічыла каменьчык нечым ядомым і праглынула яго. Каменьчык на зямлю не ўпаў. Ці азначае гэта, што нам варта неадкладна паставіць пад сумненне аб'ектыўны змест закона прыцягнення? Лухта, скажа чытач, і скажа слушна. Але хіба не гэтую лухту нам прапануюць ва ўпакоўцы «новага мыслення», запэўніваючы, што славалюбства генерала, збой у рабоце камп'ютэра павінны радыкальна памяняць «наш філасофскі пункт гледжання на ролю неабходнасці і выпадковасці ў гісторыі» (там жа)?

Такая справа з «новым мысленнем» у сэнсе матэрыялізму.

Звернемся да дыялектыкі.

Згодна з Леніным (Гераклітам, Гегелем, Марксам), «дыялектыка ёсць вывучэнне супярэчнасцей у самой існасці прадметаў...» (У. І. Ленін, Поўны зб. тв., т. 29, стар. 277). Аўтар не аспрэчвае гэтага. Аднак, гаворыць ён, «калі мы ўсю энергетыку гістарычнага універсума звядзем да сутыкнення, супярэчнасцей, антаганізмаў, дык дзе знайсці месца для ідэалогіі супрацоўніцтва, узаемаразумення, чалавечнасці, нарэшце? Яны непазбежна знікаюць пры кантакце з варожымі безаблічнымі сіламі» (Цыт. праца, стар. 70—71).

**З мэтай высвятлення ісціны я павінен перш за ўсё канстатаваць, што такі погляд на дыялектыку, на дыялектычную супярэчнасць, як дзве кроплі вады падобны на тыя абывацельскія ўяўленні аб матэрыялізме, пра якія пісаў Энгельс: матэрыялізм — гэта абжорства, прага да нажывы і г. д. Якая ж, дазвольце спытаць, дыялектыка выключае «супрацоўніцтва», «узаемаразуменне» і іншыя такія ж пашанотныя рэчы, якія так турбуюць «кансультанта па філасофіі»? Не толькі магчымасць, але прамую неабходнасць гэтага «супрацоўніцтва» пры жаданні лёгка «вылічыць» ужо з самой назвы закона, які адлюстроўвае гэты глабальнейшы бок спосабу быцця універсума: закон ТОЕСНАСЦІ (менавіта тоеснасці, а не адзінства, як ён называецца ў школьных падручніках па дыялектыцы) і барацьбы процілегласцей. Гегель наогул называў яго законам тоеснасці процілегласцей. І такая назва выключна дакладна выяўляе яго змест. Бо процілегласці — гэта не ПОБАЧЛЯЖАЧЫЯ, суіснуючыя бакі той ці іншай з'явы. Гэта, кажучы словамі Гегеля, усяго толькі «іншае адно аднаго». Гэта — як жыццё і смерць, якія ўяўляюць сабой не два працэсы, а адваротныя бакі аднаго і таго ж працэсу: жыць — значыць паміраць, паміраць — значыць жыць. Ды і «барацьбу» процілегласцей нельга ўяўляць сабе на манер сваркі дзвюх прадстаўніц цудоўнага полу на камунальнай кухні. Барацьба процілегласцей, па дакладным і строгім сэнсе, які ўкладвае ў гэтае паняцце дыялектыка, ёсць узаемадзеянне, узаемадэтэрмінаванасць, што забяспечваюць працэс САМАразвіцця з'явы.**

Адкуль, з якой крыніцы ўзяў аўтар свае ўяўленні аб дыялектыцы супярэчнасці — пра гэта меркаваць не бяруся. Іх можна напаткаць амаль у кожнай кніжцы па марксісцкай філасофіі. Адно магу сказаць зусім дакладна: «Вялікі выбух», што спарадзіў усю гэтую лавіну абыходкавых выдумак аб дыялектыцы, пачаўся з «Кароткага курса», а «атамам-бацькам» яе быў раздзел «Аб дыялектычным і гістарычным матэрыялізме». Менавіта ў гэтай працы Сталін канчаткова выпусташыў увесь пазітыўны, дыялектыка - матэрыялістычны змест закона тоеснасці і барацьбы процілегласцей, зводзячы яго толькі да барацьбы, прычым барацьбы «адмоўнага» і «станоўчага», «старога» і «новага», аджываючага» і «растучага». Адсюль гэтая дыялектыка ў сталінскай аркестроўцы пачала шпацыраваць па старонках філасофскіх прац.

Такая справа з «новым мысленнем» у сэнсе дыялектыкі.

Я не буду кранаць іншыя навацыі, якімі перапоўнены згаданы мною артыкул. І наогул ён не заслугоўваў бы аніякай увагі, калі б не ўяўляў сабой у выключна аголенай форме адну тэндэнцыю, якая, наадварот, заслугоўвае ўсялякай увагі: выдаваць адмову ад стэрэатыпаў уласнага мыслення за развіццё дыялектычнага матэрыялізму «ў рамках зыходнага прынцыпу тэарэтызавання», «распаўсюджанне паскарэння сацыяльна - палітычнага развіцця на сферу думкі аб ім». Выбачайце, якія ўжо тут «рамкі зыходнага прынцыпу тэарэтызавання», калі вам прапануюць адмовіцца ад ідэі супярэчнасці, якую Ленін з поўнай падставай лічыў «ядром дыялектыкі»? І пра якое «паскарэнне сферы думкі» можна весці гаворку, калі вас цягнуць з веку XX у век XVIII?

Не магу не сказаць яшчэ пра адно: сярод пэўнай часткі філосафаў досыць модным стала выхваляцца шрамамі, пакінутымі, калі верыць ім, цярновымі вянкамі, якія яны насілі нібыта ў гады «застою». Паслухаеш іх — ну проста хоць зараз кананізуй і далучай да святых вялікамучанікаў ідэі. Хоць калі паглядзець бібліяграфію, ды як след паварушыць памяць, як тут жа высветліцца: вельмі многія з тых, што сёння б'юць сябе ў «хворыя, стомленыя грудзі», менавіта ў гады застою ўваходзілі ў рэдакцыі вядучых філасофскіх часопісаў, вызначалі выдавецкую палітыку ў галіне філасофіі, былі кансультантамі і экспертамі ўсялякіх сацыяльных праджэктаў, набыўшы за турботы свае неспакойныя ўсе магчымыя і немагчымыя вучоныя і іншыя званні — акадэмічныя, лаўрэацкія і г. д., і да т. п. У многім менавіта іх клопатам дыялектычны матэрыялізм абавязаны тым, чым ён стаў, у што ператварыўся. Не хацелася б прыгадваць гэта, але маральнае пачуццё крычыць, калі даводзіцца сутыкацца з фактамі такога «пераходу ў сваю процілегласць». Чытачу патрэбны персаналії? Персаналіяў не будзе. Ды і не ў персаналіях, урэшце, справа. Важнае іншае: наша філасофская гаспадарка мае патрэбу ў радыкальнай інвентарызацыі. Неабходна рэканструяваць дыялектычны матэрыялізм у сапраўдным абліччы, ачысціць ад пазнейшых напластаванняў, прыўнесеных дылетантамі і кан'юнктуршчыкамі, якія ўзурпіравалі права пісаць і гаварыць ад яго імя.

АДНОЙ з «родавых», існасных характарыстык ідэалогіі сталінізму з'яўляецца вульгарны сацыялагізм, ігнараванне ўнутраных законаў развіцця духоўнай культуры, таго, што Пляханаў называў калісьці ўласнай граматыкай ідэальнага. Аднёсшы палітычныя, прававыя, рэлігійныя, мастацкія, філасофскія погляды грамадства да галіны надбудовы, яна, па-першае, гіпертрафіравала сапраўды ўласцівы грамадскай свядомасці момант класавасці, па-другое, намёртва прывязала працэс развіцця грамадскай свядомасці да змены грамадска - эканамічных фармацый. Логіка тут простая да прымітыву. Калі свядомасць грамадства ёсць складаемае надбудовы, а надбудова — вызначаецца эканамічным базісам, то адсюль вынікае, што свядомасць, па-першае, мае класавую прыроду, па-другое, павінна мяняцца «больш ці менш хутка» ўслед за зменаю сістэмы эканамічных адносін. Прычым мяняцца гэтак жа радыкальна, «рэвалюцыйна». Канструяванне свайго, чыста «пралетарскага» мастацтва з яго прынцыпова новым метадам адлюстравання жыцця, метадам «сацыялістычнага рэалізму», сваёй, «камуністычнай» маралі, «падпарадкаванай класавай барацьбе пралетарыяту», свайго «сацыялістычнага» права, заснаванага на прынцыпе «рэвалюцыйнай мэтазгоднасці» —усе гэтыя навацыі вынікаюць адсюль, з гэтай мутнай крыніцы. Зусім відавочна, што гэты ідэалагічны смерч ніяк не мог абысці філасофію. Больш таго, менавіта яе і павінен быў закрануць ён у першую чаргу. Бо сказана ж: толькі старая, «сузіральная» філасофія магла задавальняцца сціплай задачай вытлумачваць свет. Цяпер ёй належала яго перарабіць.

**Кітайская мудрасць гаворыць: перш чым наводзіць парадак у Паднябеснай, трэба навесці яго ва ўласнай галаве. Я не ведаю, ці чулі пра гэтую мудрасць нашы філосафы. Але пачыналі яны свой «рэвалюцыйны пераварот у філасофіі» ў поўнай згодзе з гэтай кітайскай рэкамендацыяй. А, зрэшты, інакш і быць не магло. У сваёй якасці «ўсеагульнага метаду рэвалюцыйнага пераўтварэння рэчаіснасці» філасофія сама павінна была паказаць «гораду і свету» прыклад рэвалюцыйнасці і радыкалізму, перарадыкаліць самых радыкальных радыкалаў. Яна і пачала з таго, што паставіла пад сумненне ўжо сам прадмет філасофіі як навукі, высунуўшы ідэю яго «гістарычнай зменлівасці».**

**Цяпер цяжка сказаць, каму з філосафаў - марксістаў належыць тут прыярытэт. Але вось як малюе гэты працэс адзін з «заложнікаў сталінізму і застою» (так, прынамсі, рэкамендуе яго «Литературная газета» (акадэмік Б. М. Кедраў, «...Першапачаткова, у старажытнасці, існавала нерасчлененая навука, унутры якой усе галіны ведаў знаходзіліся пад эгідай філасофіі. Далейшы прагрэс заключаўся ў тым, што пачалася дыферэнцыяцыя навук. Ад раней адзінай філасофскай навукі аддзяліліся, адпачкаваліся спачатку матэматыка, механіка і астраномія. У XVII стагоддзі ад філасофіі адпачкаваліся фізіка і хімія, а пазней біялогія і геалогія. Услед за прыродазнаўчымі навукамі ішло адпачкоўванне грамадска-эканамічных навук (гісторыі, палітычнай эканоміі, лінгвістыкі, педагогікі і інш.)» (Б. М. Кедраў. Энгельс і дыялектыка прыродазнаўства. М., 1970, стар. 144—145). У выніку гэтага працэсу дыферэнцыяцыі і «адпачкоўвання» ад старой, традыцыйнай філасофіі засталася толькі «навука пра мысленне — дыялектыка і логіка» (там жа, стар. 149). «Навуковая» філасофія і ёсць, на думку аўтара, навука пра мысленне.**

У якой ступені ідэя гістарычнай зменлівасці прадмета філасофіі можа быць узгоднена з дыялектыкай? А ні ў якой. Яна несумяшчальная з ёй, бо парушае генетычныя сувязі ў развіцці філасофскіх ведаў, адкідвае да дагегелеўскага разумення гісторыка-філасофскага працэсу. Замест рэальнай гісторыі станаўлення і развіцця філасофіі нам прапануюць нешта накшталт стрыптызу філасофіі. Мне ўжо даводзілася пісаць пра абсалютную навуковую неўгрунтаванасць гэтага новаўвядзення, яго несумяшчальнасць з логікай і фактамі. Паўтарацца не буду. Сэнс гэтай ідэалагічнай канструкцыі зразумелы. Зразумелы і яе, так бы мовіць, сацыялагічны эквівалент: адлучыць філасофію ад самога быцця, у тым ліку быцця сацыяльнага, пасадзіць яе на галодны паёк «чыстай думкі». Няцяжка дадумецца, што філасофія, адарваная ад жыцця, фатальна асуджана круціцца ў коле адных і тых жа ідэй, без усялякай надзеі ўведаць калі-небудзь, ці адпавядаюць гэтыя ідэі самому жыццю, самой існай рэчаіснасці. Зрэшты, згодна з запэўніваннямі адэптаў гэтай канцэпцыі філасофіі, у такім супастаўленні і патрэбы няма. Бо ў рэальнасці павінна адбывацца ўсё тое ж самае, што адбываецца ў нашай уласнай галаве. Зарукай таго — прынцып адзінства быцця і мыслення.

**Цяжка паверыць, што дыялектычны прынцып тоеснасці быцця і мыслення, адкрыццё якога складае найвялікшую заваёву чалавечага розуму, можа быць так недарэчна вытлумачаны. Але на справе менавіта так і ёсць. Дзеля доказу я спашлюся зноў на Б. М. Кедрава: «Пакольні змест нашага мыслення складае навакольны свет, пастольні непазбежна навука пра мысленне павінна ўключаць у сябе тое, што ўваходзіць у змест гэтага мыслення, г. зн. вучэнне пра аб'ектыўны свет, які і адлюстроўваецца ў нашай свядомасці. Пакольні ж найбольш агульныя законы развіцця, якія дзейнічаюць у прыродзе, грамадстве і мысленні, адны і тыя ж і гэта ёсць законы матэрыялістычнай дыялектыкі, то вывучэнне іх дзеяння ў сферы мыслення дае разам з тым магчымасць вывучаць іх жа і ў сферы навакольнага свету — у прыродзе і грамадстве» (там жа, стар. 147).**

Ці няпраўда, як проста і лёгка быць філосафам: сачы за тым, што робіцца ва ўласнай галаве, і ты будзеш ведаць, што робіцца ў акаляючым цябе свеце. Мне могуць запярэчыць, што гаворка ідзе ў гэтым выпадку не пра мысленне кожнага дадзенага канкрэтнага чалавека, а пра мысленне грамадства. Але я адкажу, што мысленне грамадства, адарванае ад мыслення кожнага дадзенага канкрэтнага чалавека, — гэта не рэальнае, а містыфікаванае мысленне, гегелеўскі абсалютны дух. Навука пакуль не выявіла, ды наўрад ці калі-небудзь і выявіць наяўнасць «грамадскага» мозгу, функцыяй якога мысленне з'яўляецца.

Хоць — стоп, ці маю я рацыю? Цвяроза разважыўшы, вымушаны прызнаць, што не маю, што яўна паспяшаўся з высновай. Мне прыгадалася, дзесьці я чытаў, ледзь ці не ў «таварыша Сталіна», што ў нас ёсць штаб. Ну а калі ёсць штаб, дык павінен быць і мозг — успомнім маршала Шапашнікава. Ды і пра «калектыўны розум» хто не чуў? А цяпер, калі мы з вамі, чытач, разабраліся, нарэшце, з гэтым рэбусам, высветлілі, што грамадскі мозг усё ж існуе і прадстаўлены штабам, давайце спусцім думку Б. М. Кедрава з філасофскіх вышынь на грэшную зямлю, спалучым яе, як гавораць, з жыццём. Значыць, «навуковая» філасофія не мае і не павінна мець справы з самім быццём. Яна ёсць навука пра мысленне, бліжэйшым чынам— пра тое мысленне, якое адбываецца ў штабе, пра вынікі «калектыўнага розуму». Услухоўваючыся ў тое, што гаворыць нам «калектыўны розум», мы будзем дакладна ведаць што адбываецца «ў сферы навакольнага свету — у прыродзе і грамадстве».

НУ А ШТО КАЛІ, чаго добрага, знойдзецца такі Фама няверуючы, які захоча параўнаць працэс мыслення «калектыўнага розуму» з рэальным працэсам жыцця? Што калі ён прыйдзе пры гэтым да высновы, што ў жыцці ўсё адбываецца зусім не так, як мысліцца «калектыўнаму розуму»? Што калі ён набярэцца дзёрзкасці і скажа нашаму «навуковаму» філосафу-логіку: а працэс жа майго мыслення адбываецца зусім не так, як паказвае твая тэорыя? Вы, вядома, мяркуеце, што наш філосаф тут жа збянтэжыцца і вінавата прамямліць: выбачай, братка, прамашка выйшла. Не спадзявайцеся —кепска вы ведаеце нашага брата філосафа! Ён вам тут жа заявіць, што ваша мысленне нікуды не вартае. Не верыце? Тады слухайце: «...Калі вы ўкажаце логіку, што рэальнае мысленне чалавека адбываецца не так, як паказвае яго тэорыя, ён на гэта слушна адкажа: тым горш **для гэтага** мыслення і не тэорыю тут трэба прыстасоўваць да эмпірыі, а рэальнае мысленне пастарацца зрабіць лагічным, прывесці яго ў адпаведнасць з лагічнымі прынцыпамі» (Э. В. Ільянкоў. Дыялектычная логіка. М., 1974, стар. 122). Вы ўгадалі, чытач, куды дзьме вецер? Так, так, трэба ўключыць механізм «выхавання новага чалавека», прывесці мысленне такога Фамы ў адпаведнасць з тым, што думае штаб. Як там у Фамусава:

**Она не родила, но по расчету**
**По моему: должна родить.**

Не атрымаецца—аб'явіць адшчапенцам, злым ачарняльнікам нашай цудоўнай рэчаіснасці і нашых сацыялістычных ідэалаў.

Не, дарэмна, зусім дарэмна «верны ленінец» наракаў, што філасофія займаецца «схаластычным тэарэтызаваннем». Яму проста няўцям было, якую сапраўды неацэнную паслугу яна яму аказвала, падводзячы тэарэтычны падмурак пад самае патаемнае яго жаданне: прымусіць народ жыць не ў рэальным, а ў ілюзорным свеце, у свеце сацыяльных міфаў, якія ў дастатковай колькасці пастаўляў яму штаб і якімі ён хлебасольна частаваў «новую гістарычную агульнасць людзей» з трыбуны партыйных з'ездаў і пленумаў. Не так ужо і цяжка, дальбог, назваць тры тонкія брашуркі трылогіяй і аб'явіць вянцом палітычнай мудрасці і вяршыняй мастацкага генія. Груба, прымітыўна і дурань зробіць. А вось перакanаць людзей, што жыццё цячэ ў строгай адпаведнасці з «высновамі і палажэннямі, якія ўтрымліваюцца ў дакладзе (прамове, выступленні) Леані-

да Ільіча Брэжнева». — гэта не кожнаму дадзена. Тут патрэбна «навуковая» філасофія з усім багацейшым яе арсеналам сафістычных прыёмаў і метадаў, якія выдаюцца за дыялектычную гнуткасць пазнання рэальнасці.

**Адлучыць філасофію ад самога быцця, абмежаваць яе прадмет галіною «чыстага мыслення» ці нават грамадскай практыкі, значыць пазбавіць яе ўласнага зместу, а значыць, і ўласнага бачання свету. Не такога бачання, калі вока бачыць не далей уласнага носа, а такога, пра якое гаварыў Платон: калі розум «лунае над усім, як у Піндора, мераючы прастору зямлі, спускаючыся на зямлю і сягаючы вышэй за нябесныя свяцілы, усюды зведваючы прыроду любой рэчы ў цэлым і не апускаючыся да таго, што знаходзіцца блізка». Ці, кажучы стылем не такім узвышаным, філасофія павінна бачыць не асобныя фрагменты быцця, а цэласную сістэму «свет — чалавек». Толькі такая філасофія ў стане выканаць адну з важнейшых сваіх функцый — быць прыладай крытычнага аналізу і вынікаў развіцця навукі, і вынікаў развіцця грамадскай практыкі, супрацьстаяць сацыяльнай міфалогіі і палітычнай дэмагогіі, выяўляючы любую ідэалагічную канструкцыю крытэрыем розуму, маральнасці і красы. У той жа ролі, якая была ёй навязана «папамі марксісцкага прыходу» (Энгельс), яна магла стаць толькі тым, чым у сапраўднасці і стала — прыслужніцай палітыкі і яе апалагетам, дармаедам, які паразітуе на выніках працы вучоных прыродазнаўцаў і гуманітарыяў.**

Хто можа сказаць сёння, дзе пачынаецца і дзе канчаецца поле дзейнасці філосафа? Межы філасофіі размыты. Яна займаецца ўсім, а таму па сутнасці нічым. Многае з таго, што ёю зроблена і робіцца, — гэта зусім не філасофія, а так, папуры на прырода-навуковыя і грамадска-палітычныя тэмы. У гэтым сваім змесце (лепш было б сказаць — у гэтай сваёй беззмястоўнасці) яна ўжо даўно перастала быць навукай. Дзіўна, але факт, гэтая акалічнасць аніяк не турбуе філосафаў. Больш таго, іх намаганні якраз і скіраваны на тое, каб абгрунтаваць тэарэтычна, што філасофія наогул не ёсць навука. Калі раней гэты статус прызнаваўся хоць бы за марксісцкай філасофіяй (усё той жа «рэвалюцыйны пераварот», а па сутнасці плебейская ганарлівасць), дык цяпер і яна пазбаўлена яго.

ФІЛАСОФІЯ не ёсць навука — усё часцей гучыць з трыбун канферэнцый і сімпозіумаў, тыражуецца ў манаграфіях і вучэбных дапаможніках. Што ж, калі мець на ўвазе цяперашні стан марксісцкай філасофіі, то гэта так, не навука. Толькі навошта ж свой уласны стыль мыслення і сваё разуменне прызначэння філасофіі выдаваць за «ўсеагульнае», экстрапаліраваць на філасофію наогул?

**Чаму ж, аднак, філасофія не навука і што яна такое? Нарэшце, каму і навошта спатрэбілася адлучаць філасофію ад навукі? Звернемся за растлумачэннямі да акадэміка Т. І. Ойзермана. «Правільная пастаноўка пытання «што такое філасофія?», — расказвае ён, — мае на ўвазе ўсведамленне адноснага адрознення паміж навукамі і формамі грамадскай свядомасці, бо філасофія мае прамыя адносіны як да тых, так і да другіх. Навукі вызначаюцца (і адрозніваюцца адна ад аднае) прадметам свайго даследавання: менавіта прадмет навукі вызначае яе сацыяльную функцыю. У адпаведнасці з гэтым сацыяльная функцыя фізікі істотна адрозніваецца ад сацыяльнай функцыі палітычнай эканоміі. Формы грамадскай свядомасці адрозніваюцца адна ад адной выключна характарам выконваемай сацыяльнай функцыі і вызначаюцца ім. Наўрад ці неабходна даказваць, што ў мастацтва свая сацыяльная функцыя, у рэлігіі — свая, прычым гэтае адрозненне функцый не можа быць вытлумачана прадметам даследавання, папершае, таму, што мастацтва і рэлігія не займаюцца даследаваннем, па-другое, таму, што іх спецыфіка не вызначаецца якім бы то ні было прадметам» (Т. І. Ойзерман. Праблемы гісторыка - філасофскай навукі. М., 1982, стар. 66—67).**

Дык вось, навукі адрозніваюцца прадметам даследавання, формы грамадскай свядомасці — выключна характарам выконваемых грамадскіх функцый. Дапусцім. Але чым вызначаюцца функцыі, якія выконваюць формы грамадскай свядомасці? З навукамі ўсё зразумела, іх функцыі вызначаюцца прадметам даследавання. А як быць з формамі грамадскай свядомасці? Чым вызначаецца функцыя, напрыклад, мастацтва? Зграбная лагічная канструкцыя Т. І. Ойзермана не дае, на жаль, адказу на гэтае пытанне. А не дае таму, што ніякі прадмет навукі, насуперак Т. І. Ойзерману, не вызначае яе функцыі. Вазьміце тую ж фізіку, на якую спасылаецца Т. І. Ойзерман. Так, свет развіваецца па пэўных фізічных законах. Але самі гэтыя законы ніякіх грамадскіх функцый не выконваюць і выконваць не могуць. А вось **веданне** гэтых законаў, якія мы атрымліваем у выніку фізічных даследаванняў, сапраўды выконвае пэўныя грамадскія функцыі. Функцыі навукі, такім чынам, вызначаюцца не іх прадметам, у чым нас спрабуе пераканаць Т. І. Ойзерман, а іх **зместам.** Праўда, змест навукі, у сваю чаргу, вызначаецца яе прадметам, г. зн. галіною даследавання, але гэта ўжо іншае пытанне. Ці прынцыповае такое ўдакладненне? Так, прынцыповае. Бо дазваляе зразумець: крытэрый, па якім аўтар размяжоўвае навуку і формы грамадскай свядомасці, не больш чым фантом: функцыі і навукі і форм грамадскай свядомасці аб'ектыўна дэтэрмінаваны іх зместам, а значыць, у гэтых адносінах яны рашуча нічым адно ад аднаго не адрозніваюцца.

**Навошта ж спатрэбілася шаноўнаму акадэміку гэтае размежаванне? Адказ відавочны: каб даказаць — функцыі форм грамадскай свядомасці вызначаюцца выключна грамадскай патрэбаю, г. зн. тымі задачамі, якія мы ўскладаем на іх. Навуцы немагчыма што-небудзь дэкрэтаваць, скажам, загадаць матэматыцы праводзіць з гэтага часу праз кропку, узятую па-за прамой, не адну, а дзве лініі, паралельныя дадзенай. Я б з дарагой душой, скажа матэматык, але гэта ад мяне не залежыць. Хоць і тут мы спрабавалі дамагчыся поспеху — успомніце Лысенку з яго кусцістай пшаніцай і кавунамі, што растуць на бярозе. А дырэктывы атрымліваць ад каровы колькасць цялят і ад курыцы колькасць яек, прадугледжаную народнагаспадарчым планам? У вас, чытач, у сувязі з гэтымі дырэктывамі ніякіх асацыяцый не ўзнікае? Як бы там ні было, нарэшце мы зразумелі: ад навукі, як і ад жанчыны, можна патрабаваць не больш таго, што яна ў стане даць, кажучы моваю Т. І. Ойзермана, функцыі навукі вызначаюцца яе прадметам. Ну а з формамі грамадскай свядомасці, з мастацтвам, напрыклад, цырымоніцца няма чаго. Функцыі мастацтва нічым аб'ектыўна не дэтэрмінаваныя, а таму рабі, калі ласка, тое, што табе загадваюць. Такая грамадская патрэба, г. зн. воля ідэалагічнага начальства.**

І ўсё ж, каб выконваць свае грамадскія функцыі, нават калі яны заключаюцца ў тым, каб ажыццяўляць «ідэалагічнае забеспячэнне» прадвызначэнняў высокага начальства, формы грамадскай свядомасці павінны пра штосьці гаварыць людзям, у чымсьці пераконваць іх, г. зн., іншымі словамі, павінны мець пэўны змест. Адкуль жа гэты змест бярэцца? Дык жа, згодна з кампетэнтным запэўніваннем Т. І. Ойзермана, формы грамадскай свядомасці «не займаюцца даследаваннем» ці, што адно і тое ж, не з'яўляюцца адлюстраваннем рэчаіснасці. Справа, аказваецца, вось у чым: «Грамадская свядомасць, адлюстроўваючы грамадскае быццё, не ёсць яшчэ **пазнанне** грамадскага быцця: для гэтага неабходна яго даследаванне, якое не заўсёды мае месца і, вядома, не заўсёды дасягала сваёй мэты» (там жа, стар. 67).

Я пытаюся: навошта гэтая гульня ў тэрміналагічныя пустышкі: грамадская свядомасць **адлюстроўвае** грамадскае быццё, але не **спазнае** яго. Па дакладным сэнсе, які ўкладвае ў тэрмін **«пазнанне»** матэрыялістычная гнасеалогія, пазнанне — гэта і ёсць адлюстраванне рэчаіснасці ў форме пачуццёвых і мысліцельных вобразаў ці, калі пакарыстацца хрэстаматыйна вядомымі словамі Маркса, ёсць перавод і пераўтварэнне матэрыяльнага ў рэчаіснасці ў ідэальнае ў чалавечай галаве. Вядома, сам працэс адлюстравання ці пазнання можа ажыццяўляцца з рознай ступенню глыбіні — на будзённым і навуковым, тэарэтычным узроўні. Але не гэта хоча сказаць наш тытулаваны аўтар. Сутнасць у іншым: вы, чытач, вядома, адлюстроўваеце грамадскае быццё ў формах вашай свядомасці, але нічога пры гэтым не разумееце. Таму без тлумача вам аніяк не абысціся.

**Гэтую функцыю тлумачыць і выконвае філасофія. Філасофія — не навука, бо яе функцыі вызначаюцца не асаблівым прадметам даследавання, а «сацыяльнымі патрэбамі», г. зн. яна ёсць форма грамадскай свядомасці. «Марксісцкае даследаванне развіцця філасофіі, — з задавальненнем канстатуе Т. І. Ойзерман, — азначае пераадоленне спецыфічных філасофскіх ілюзій, якія закрываюць шлях да разумення філасофіяй сваёй уласнай сутнасці. Упершыню гісторыя філасофіі была зразумета ў яе адносінах да сацыяльных патрэб, сацыяльна - эканамічных працэсаў, класавай барацьбы» (там жа, стар. 68). Але філасофія не проста адна з форм грамадскай свядомасці. Гэта НАВУКОВАЯ форма грамадскай свядомасці. Яе навуковасць вызначаецца тым, што яна ДАСЛЕДУЕ грамадскую свядомасць, г. зн. з'яўляецца самарэфлексіяй грамадскай свядомасці. Тлумачачы сваю думку, Т. І. Ойзерман піша: «У навуцы не толькі аб'ектыўная рэчаіснасць — прыродная ці сацыяльная, але і яе адлюстраванне падвяргаецца аналізу, які аддзяляе сапраўднае ад несапраўднага; апошняе таксама адлюстроўвае рэчаіснасць, хоць і неадэкватным чынам» (там жа, стар. 67—68).**

Такой самарэфлексіяй навука сапраўды займаецца, падвяргаючы любую тэорыю нібы другаснай праверцы, вызначаючы яе адпаведнасць таму свайму зместу, сапраўднасць якога эмпірычна і тэарэтычна шматразова пацверджана і які знайшоў адлюстраванне ў сістэме яе катэгорый і законаў. Таму і самарэфлексія навукі ёсць **навуковая** самарэфлексія, г. зн. яна валодае цалкам надзейным крытэрыем, каб «аддзяліць сапраўднае ад несапраўднага». Ці валодае такім крытэрыем філасофія? Дзе гарантыя таго, што даследаванне філасофіі з'яўляецца **навуковым?** Калі філасофія сама не з'яўляецца навукай, калі той катэгарыяльны інструментарый, з дапамогай якога яна даследуе грамадскую свядомасць, не зверана на прадмет яго адпаведнасці аб'ектыўным законам прыроднага і сацыяльнага быцця, калі гэты інструментарый ёсць усяго толькі тэарэтычная канструкцыя, у якую ўвасоблены чыесьці «сацыяльныя патрэбы», — такая філасофія не мае права называцца навуковым даследаваннем: сам факт даследавання — не патэнт на права ўваходу ў храм навукі. Пазбаўляючы філасофію статуса навукі пра само быццё, ставячы яе функцыі ў залежнасць не ад прадметнага зместу, а ад чыіхсьці патрэб і інтарэсаў, мы адкрываем нічым не абмежаваную прастору суб'ектывізму і аўтарытарызму. Бо такая філасофія арыентавана не на аб'ектыўныя законы быцця, а на чыюсьці волю, узведзеную ў закон. «Філасофскае даследаванне», такім чынам, абарочваецца пракурорскім наглядам над навукай, мастацтвам, мараллю. Finis coronat opus — канец вянчае справу!

Ну а як жа праблема, акрэсленая ў назве артыкула, спытае чытач? На гэта я адкажу гэтак: але, дыялектычны матэрыялізм выступаў філасофіяй нашай трагедыі, г. зн. быў тэарэтычным medemecum'am палітыкі сталінізму. Але для гэтага яму неабходна было перажыць уласную трагедыю, пабываць у творчай лабараторыі нашых ідэалагічных кампрачыкосаў.



# ПАЭТ СВЯТЛА

## Да 70-годдзя з дня нараджэння Аляксея ПЫСІНА

Быў канец шасцідзесятых. Адна за адной выходзілі кнігі тых, хто ўзняўся або набыў новае дыханне на хвалі яшчэ аднаго адраджэння. А на кніжкі тыя (гонар нашай літаратуры!) усё менш і менш ставала чытачоў.

Я заканчваў у канцы шасцідзесятых школу. Памятаю, пачалі знікаць у нас у тыя часы падручнікі на роднай мове. Мне дасталі дзесьці падручнік па фізіцы на рускай мове, чым я вельмі ганарыўся. І вершы пісаў на рускай мове, дасылаючы іх не абы-куды, а ў самую «Комсомольскую правду»...

І вось тады, у той час, я і адкрыў для сябе Караткевіча, Пысіна...

Як гэта было, з чаго пачалося?

Спачатку было нават не так само слова, як нейкі неймаверна пранізлівы, кранальны, лікуюча-тужлівы гук, інтанацыя, рэха болю. Рэквіем. Чысты гук і тон узвышанага, трагічна-шчырага мастацтва. Тут не было і быць не магло маны, бліскавак штучных упрыгожанняў, а было штосьці недасяжна дасканалае і непасрэднае.

**Гудкі паравоза ў дрымоце начной**<br>
**Зайгралі басамі баяна.**<br>
**Акорды трывогі сягоння са мной,**<br>
**Як песня, што ўжо адспявана.**

**Даўно адгрымеў на мастах эшалон,**<br>
**Над сінню пранёсся крылата.**<br>
**Пытаюся ў станцый: дзе наш батальён,**<br>
**Скажыце, хто бачыў камбата?**

Я і сёння дзіўлюся, думаю, што ж усё-такі было такое надзвычай прыцягальнае ў гэтых як быццам і няхітрых радках, што яны так уладарна забралі сэрца ў палон. Бо ваенная «рамантыка» тут ні пры чым.

Аляксей Пысін — паэт святла. Святлом насычаны ягоныя вершы, як соты мёдам. Проста-такі магічным, малітоўным святлом, святлом, якое прасякае свет, людзей і прадметы наскрозь: «Свеціць камень. Свеціць дух сасновы. Свеціць даўні след. Свецяць летуценні. Свецяць словы, што імкнуцца ў свет»...

**Не было вясны такой шыкоўнай,**<br>
**Не было такіх цвярозых свят.**<br>
**Расцвіла ігруша пад шпакоўняй.**<br>
**Расцвіла ад макаўкі да пят.**<br>
**І Алёнка выбегла з партфелем**<br>
**Па сцяжынцы ўніз — на ўрок пара!**<br>
**З мудрасцю наіўнай буквара**<br>
**У гэткі час у добрае паверым.**

Колькі музыкі і святла ў гэтай просценькай, як сам свет, з'яве! Тут ужо верш як бы і перастае быць вершам, творам, становіцца самой субстанцыяй душы, існасцю натуры.

Колькі ж патрэбна было мець паэту душэўнай відушчасці, моцы, каб вось так напісаць пра жыццё. Яму, якога яшчэ ў юнацтве апаліла сваім ледзяным дыханнем смерць. «Я бачыў дно ўскіпеўшых пераправаў, знікненне армій і дзяржаў...»

Лічыцца: той, хто зазірнуў аднойчы ў бездань нябыту, хаосу, не здолее адшукаць да скончэння дзён сваіх душэўнай раўнавагі. Магчыма, Пысін — выключэнне. Ён, усё сваё жыццё ствараючы ўзвышана-трагічны Рэквіем у памяць юнакоў, забраных вайной, адначасова пастаянна імкнуўся да пераадолення трагічнасці жыцця, да стварэння своеасаблівай ідыліі. Толькі не той афіцыйна-аптымістычнай, казённай ідыліі (якая выцякала з палажэнняў сацрэалізму), а сваёй уласнай, незалежнай ад ідэалагічных установак, пабудаванай у сваім сэрцы.

У вершах Аляксея Пысіна свеціцца душа беларуса. Таму, мабыць, і паўплывалі яны калісь на мяне так дабратворна, абудзіўшы прыспаныя гены нацыянальнай свядомасці, нацыянальнага эстэтычнага светаўспрымання.

Цягавітасць беларуса — у характары Пысіна, яна — у ягоным шляху. Не адразу адчуў ён свой гук у паэзіі, ён марудна але настойліва ішоў наперад, пераадольваючы завалы часу, агульных эстэтычных установак. І стаў — Пысіным, насуперак свайму часу, не заўсёды ашчаджальнаму і літасціваму да паэтаў.

Лепшая кніга А. Пысіна выйшла ў канцы шасцідзесятых — «Твае далоні». Гэта — як выдых. Няма ў ёй вершаў-перадавіц, якімі так «грашылі» многія. Калі сёння гавораць пра канфармізм тагачаснай літаратуры, то пакажыце мне хоць бы адзін пысінскі радок, напісаны ім супроць свайго сэрца! У сямідзесятыя — апошняе паэтава дзесяцігоддзе — у кнігах Пысіна напаткаем няшмала шэдэўраў шчырай чалавечай лірыкі. Яны прабіліся праз бясчассе, насуперак яму.

І час, і ўсе мы вінаватыя перад паэтам. Справа не ў славе. Ён заўсёды цураўся яе, сціпла стаяў убаку ад віратні. Ёсць большая віна, чым «не дадалі пашаны». Адчуць бы яе ў сабе, гэтую віну, нашу бяду, хваробу веку. А яна вось у чым: паэты ўсе хадзілі ў нас і ходзяць пранумараваныя, з навешанымі біркамі. Вось і да помніка Пысіну прымацавана шыльда: «паэт-франтавік». Змяніць сёння яе на іншую? Паэт-філосаф, лірык? Напэўна, трэба было б адкінуць хоць цяпер, у нашыя перабудовачныя дзевяностыя, усялякія шыльды-вызначэнні ў адносінах да сапраўднага, высокага мастацтва. Таму што з'ява паэта значна шырэй за ўсялякія магчымыя вызначэнні. Шкада, што нашая крытыка — сучасніца паэта, нават у лепшых сваіх прадстаўніках, не змагла ўзняцца вышэй умоўнасцяў свайго часу.

У кнігарнях з'явіўся выдадзены да юбілею паэта сціплы двухтомнік — плён пражытага ў паэзіі жыцця. Бяру ў рукі гэтыя томікі з надзеяй, што сёння яны таксама кагосьці вернуць да роднага і запаветнага.

Яўген ГАРАДНІЦКІ.

А вось і вобраз мадонны на канатным пад'ёмніку. Маладая маці, пэўна ж, зусім апантаная альпінізмам, трымае на руках маленькае дзіця. Няўжо яго не было на каго пакінуць? Дзіцятка спакойна пасмоктвае соску — ні страх вышыні, ні пачуццё самазахавання яшчэ не вядомыя яму. Вось яно праплыло ў блакітных паўзунках у кубельцы неразумных матчыных рук. І паплыло далей па-над каменнай пустэчай, па-над рэдкімі лапікамі зямлі, на якіх нічога не расце, апрача рудога чэзлага кустоўя, якое называецца ў Славакіі касадрэвінай.

На гэтым варта спыніцца.

Праз меру захапіўшыся толькі знешнімі назіраннямі, можна без асаблівага сэнсу аглядаць кожную шчыліну і камень Саліскі і, вядома ж, яе пуставаты пік з птушынай хаткай для астраномаў. Ды ва ўсім гэтым столькі ж глухой цікавасці, колькі яе маецца ў любым нашым вясковым клубе.

Таму хутчэй на зямлю — на зямлі засталіся самыя лепшыя вобразы і назіранні. На зямлі засталіся і дзве постаці спевака. Яны чакаюць мяне ўнізе, магчыма, у кавярні, а гэта значыць, што самая істотная частка мяне самога знаходзіцца з імі.

**Кавярня — прыстанак душы. Апрача кубка кавы і звычайнага цяпла, яна яшчэ дае цудоўную магчымасць убачыць мноства сваіх двайнікоў. У кавярні ты заўважаеш людзей, падобных на сябе, бачыш свой калектыўны партрэт. Кавярня нібыта раскладае твой характар на безліч граней і перадае кожнаму з наведвальнікаў. Такой магчымасці, дарэчы, пазбаўлены вакзал, бо там увага пераважна скіравана не на людзей, а на гадзіннік і расклад цягнікоў. Стадыён таксама пазбаўлены. Асобнага гледача на стадыёне не існуе, ён патанае ў безаблічным натоўпе, а ягоную ўвагу паглынае відовішча гульні. І гарадская вуліца не стварае калектыўнага партрэта, бо кожны з прахожых заўважае перш за ўсё сябе на вуліцы, а не вуліцу вакол сябе. І толькі кавярня вылучае і зрокава ўзбуйняе канкрэтную асобу — з усіх бакоў добра бачнага Наведвальніка. Яго адлюстроўваць усе, і ён адлюстроўвае ўсіх.**

**Сумна ў кавярні Наведвальніку толькі тады, калі ягоныя двайнікі выяўляюць сабой самыя непрыемныя рысы яго характару. Ва ўсе ж астатнія імгненні Наведвальніку тут весела і ўтульна.**

**Я не памыліўся, дзве постаці спевака сапраўды мяне чакалі ў кавярні. Яны знаходзіліся ад мяне на адлегласці раданага ўздыху, таго лёгкага ўздыху, якім я развітаўся з Саліскай.**

**Я падышоў да вакна, каб яшчэ раз упэўніцца, што з акна кавярні мяне задаволіць любы краявід. Вядома, пры той неабходнай умове, што мецьму кубак гарачай кавы і разумных суразмоўнікаў. На гэты раз усё ў мяне было, таму нейкі там чарговы татранскі схіл, закампанаваны ў квадрат акна, нагадваў мяккі бок вялізнага плюшавага мядзведзя. І я яшчэ больш настроіў сябе на тую думку, што ўсё-такі лепш глядзець з акна кавярні на гару, чым з гары пазіраць на кавярню. У адваротным мяне ніхто не пераканае, нават трэнер зборнай СССР па альпінізму.**

**Да кавы афіцыянт прапанаваў нам лёгкае, амаль безалкагольнае пітво** Venušino čaro. **Мы не адмовіліся, і калі афіцыянт пайшоў у бар, мне паведамілі, што ён не славак, а цыган. Сапраўды, афіцыянт быў не па-славацку кучаравы. Я імгненна ўзнавіў у памяці паважна-стомленую паставу кантралёра-ўкраінца, што пасля кожнае станцыі наведваўся ў наш вагон. Цяпер я іх бачыў адначасова, афіцыянта і кантралёра, думаючы пра дзіўную і пакуль што незразумелую для мяне здатнасць маіх уважлівых сяброў з першага позірку вызначаць нацыянальнасць незнаёмага чалавека. А што калі на эстраду ў гэтай кавярні выйшаў бы Забэйда-Суміцкі?.. Ці вызначылі б яны яго беларускае паходжанне?**

Думаю, што не. Лягчэй выявіць нацыянальнасць кантралёра і афіцыянта, бо іхняя дзейнасць заўсёды «вонкавая», прафесійна-засяроджаная на кліентах і пасажырах, і цяжэй — нацыянальнасць мастака. Бо мастак засяроджаны на сабе, на ўласнай душы, поўнай самапазнавальнай (а г. зн. таемнай) энергіі.

Між тым мае сябры, маючы патрэбу абараніць перада мной сваё захапленне альпінізмам, тлумачылі, што ўзыходжанне на гару, нават на самую малую вяршыню, не простая забаўка ці комплекс прымітыўных фізічных практыкаванняў, а рух да чысціні — і прыроднай і сваёй уласнай, духоўнай. Чалавек, які любіць горы, узыходжанне абавязкова параўноўвае з арганнай музыкай.

Вось так, не больш і не менш. Узыходжанне — арганная музыка, ну, а сама вяршыня тады лагічна параўноўваецца з храмам. Я не аспрэчваю, няхай усё будзе так велічна, хоць на гэтай велічы пластуецца налёт банальнай пампезнасці.

Мяне ж уласна ў кожнай велічы заўсёды цікавяць неэстэтычныя дробязі, на якія не зважаюць мае сябры. Калі ёсць тыя дробязі, і я іх сам адшукаў, тады дадзеная веліч існуе для мяне.

У Браціславе мы аглядалі інтэр'ер касцёла святой Тройцы. З патрыцыянскай халаднаватасцю з усіх бакоў насоўвалася на мяне архітэктурная прастора. Я не мог засяродзіцца, каб зразумець. што касцёл гэты а с а б л і в ы. У куце, справа ад увахода, стаялі ссунутыя адна да адной тры шафы. «Гэта спавядальня, — напаўшэптам паведамілі мне, — тут вось сядзіць князь (па-славацку: ксёндз)». Я расчыніў дзверы той шафкі, у якой павінен быў сядзець, чакаючы грэшніка, ксёндз... У спавядальні ўроскід ляжалі венікі, драўляныя граблі, бляшаныя шуфлі. Як у звычайнай дворніцкай пуньцы. Ксяндза, вядома, я не ўбачыў, але касцельная веліч адразу набыла для мяне зразумелую існасць.

І ў невялікім горным касцёльчыку, у якім пасля кавярні правялі мы рэшту дня, таксама ўбачылася тое, не зусім эстэтычнае, праз якое лепей успрымаецца ўсё халаднавата-велічнае.

Нам пашанцавала. Мы трапілі не на звычайную літургію, а на вянчанне.

**Святар і ягоны памочнік — міністрант, падыходзячы з чытаннем да амбона, папраўлялі мікрафон, зусім так, як гэта робяць звычайна эстрадныя выступленцы. На іхніх белых рызах зіхацелі крыжы, вышытыя залацістымі ніткамі. Па абодва бакі ад алтара стаялі ў доўгім ланцужку хлопчыкі — маленькія міністранты. Іхнія таксама белыя ўборы былі аздоблены ўнізе вышытымі гронкамі вінаграду, кветкамі і лісцем. Каля алтара на грыфельнай дошцы бялеў крэйдавы надпіс: Будзь прывітаны, пане, пакорны кароль славы.**

**У аднаго малога служкі зачасалася ножка. На нейкае імгненне ён забыўся на веліч падзеі і, не хаваючыся, пачухаўся.**

**Святар абвясціў: хто любіць жонку сваю, той самога сябе любіць, хто знойдзе боскія словы, той будзе жыць вечна.**

**Лысаваты жаніх і папаўнелая ў таліі нявеста стомлена чакалі вянца, як выратавальнага круга. Толькі ён мог выбавіць з рытуальна-адцягненай плыні запозненага для іх вянчальнага абраду. Павучанні святара, я ўпэўнены, мелі для іх толькі практычны сэнс, без аніякага там пачуццёвага ўзрушэння. І касцёл для іх быў касцёлам, арганная музыка — арганнай музыкай, бо яны, лысаваты жаніх і папаўнелая нявеста, ужо знаходзіліся за той узроставай мяжой, за якой рэлігійны рытуал не дасягае свайго поўнага эфекту, нягледзячы нават на магчымую іхнюю шчырую набожнасць.**

Усё навокал мела зразумелую звыкласць, нават нейкую сямейную ўтульнасць. У арганіста на каленях сядзела яго дачка, дзяўчынка гадкоў пяці, а міністрант, як гаспадыня на кухні, ручніком выціраў каля алтара залатыя кубкі. Мы стаялі на хорах і ўсё, што адбывалася ўнізе, добра бачылі.

І там, унізе, не так далёка ад мяне, на адлегласці пяшчотнага слова, шанавалі сваю маўклівасць дзве постаці спевака. Па рыпучай, нібы ў музеі, лесвіцы я сышоў з хораў і паволі пачаў прасоўвацца да іх. Рухаўся вельмі марудна, бо людзей было шмат — не ступіць вольнага кроку. Нарэшце апынуўся каля мармуровага слупка, з прымацаванай наверсе скарбонкай.

Побач на століку ляжаў стос газет «Каталіцкія навіны». Парафіяне апускалі ў шчыліну скарбонкі па 50 галераў: стос з кожнай хвілінай усё меншаў і меншаў.

Постацей я не знайшоў, але быў упэўнены — яны тут, непадалёк. Я ж выразна бачыў іх з хораў. Стаялі яны менавіта ля слупка са скарбонкай... Пэўна, разгадаўшы мой намер падысці бліжэй, яны, —куды ж яшчэ маглі падзецца? — проста пакінулі касцёл.

І зноў-такі паволі пачаў я пасоўвацца да дзвярэй. Людзі ў храме стаялі шчыльна, стаялі з дзецьмі і без дзяцей, а на двары дзетак да года ў вазках імкнуліся падсунуць бліжэй да ўвахода. Мяне прапусцілі, далі дарогу, як свайму суседу.

Блакітная трысцінка ў гэты момант зноў адгукнулася, спыніла мяне... Забэйда-Суміцкі жыў сярод гэтых людзей, спяваў для іх і вучыў іх. Так, менавіта вучыў. Я маю цікавае сведчанне аб тым з вуснаў чэшскай спявачкі Катажыны Кахлікавай. Мы сустрэліся ў Маскве, і калі артыстка даведалася, што я з Беларусі, то з радасцю паведаміла, што яна вучаніца самога Забэйды-Суміцкага, а гэта значыць таксама крышачку беларуска. Болей таго — да свайго першага выступлення на пражскім тэлебачанні яна падрыхтавала два рамансы на вершы Янкі Купалы і выканала іх па-беларуску. Забэйда-Суміцкі быў першы, хто дапамог маладой спявачцы адчуць хараство вакалу. Калі ў Катажыны з'явілася магчымасць удасканаліць свой талент у Вялікім тэатры, у класе А. Абразцовай, ён шчыра ўхваліў паездку ў СССР.

Гэта была сапраўдная шчырая ўхвала, бо яшчэ ў 1933 годзе Забэйда-Суміцкі сам марыў аб паездцы ў Савецкі Саюз. У той час у Мілане ён пазнаёміўся з Собінавым. Цікава, што адзін з італьянскіх музычных крытыкаў замацаваў тое знаёмства сціслым, анатацыйна-дакладным выразам: «Міхал Забэйда — тэнар надзвычайнай якасці, артыст высокай культуры, голас мяккі, гнуткі, падобны да голасу яго суайчынніка Собінава...»

Дык вось Леанід Собінаў якраз і запрашаў маладога спевака ў Маскву для ўдзелу ў канцэртах. Што перашкодзіла той паездцы? Сталінізацыя СССР? Магчыма. Але больш магчыма, што хвароба. Неўзабаве ж давялося з Мілана ехаць у Сан-Рэма і лячыць хворыя лёгкія. Далася ў знакі неўладкаваная маладосць і першыя цяжкія месяцы вучобы ў тэатры Ла Скала ў педагога Фернанда Карпі.

Ёсць нейкі асаблівы сэнс у тым, што Собінаў адрасаваў сваё запрашэнне Забэйду-Суміцкаму, а не ягонаму земляку, таксама славутаму на ўсю Еўропу, Паўлу Пракапеню.

Беларус па паходжанні, дзіця заходнепалескага краю, духам Пракапеня жыў далёка не косаўскім, не паляшуцкім. Любая зямля і любая нацыя маглі прэтэндаваць на яго талент, але ён, пазбаўлены нацыянальнага пачуцця, быў не здольны глыбока ўзбагаціць ніводную культуру.

У 1936 годзе канцэртуючы з вялікім поспехам у Кракаве, дзе Пракапеню прадстаўляў публіцы знакаміты Ян Кепура, узрушаны малады артыст пасля выканання італьянскіх арый вырашыў здзівіць слухачоў «песняй са свайго Косаўскага павета». Здзівіўся, мусіць, толькі адзін супрацоўнік часопіса «Калосьсе», што прысутнічаў на канцэрце, бо Пракапеня праспяваў, паводле сведчання журналіста, «...нейкую расейскую песьню аб Ваньцы і Матрёне!»

**Я не кажу, што Пракапеня цалкам з'яўляўся антыподам Забэйды-Суміцкага. У іх было шмат агульнага ў лёсе. Шляхі іхнія неаднойчы перакрыжоўваліся і адорвалі часта сустрэчамі з адными ж і тымі людзьмі. Так, і Пракапеня і Забэйда-Суміцкі сустракаліся ў Вільні з Рыгорам Раманавічам Шырмам і Максімам Танкам. Толькі для Пракапені сустрэчы тыя не мелі прынцыповага значэння, ізноў-такі праз ягоную нацыянальную анемію, а для Забэйды-Суміцкага віленскія гутаркі сталіся жыццёва вызначальнымі: «Гэтыя сустрэчы дапамаглі мне ўтрымацца на той дарозе, па якой я іду і сёння. Гэта дарога не абяцала вялікай кар'еры, але яшчэ больш збліжала мяне з роднай песняю — песняю маёй маці, давала магчымасць распаўсюджваць гэту песню, несці яе ў свет, паказваць яе красу, даваць людзям радасць і ўзбагачаць гэтай песняю сусветную культуру».**

Ва ўсе гады сваёй ахвярнай творчасці Забэйда-Суміцкі не адыходзіў ад разумення, што ўласнанацыянальнае пачуццё найбольш дзейснае тады, калі меркантылізм падпарадкаваны паэзіі, а любоў да радзімы ўраўнаважана павагай да той зямлі, на якой жывеш...

Я блукаў па цвінтары і чакаў, калі выйдуць з касцёла мае сябры, і ўжо не спадзяваўся сустрэцца з Забэйдам-Суміцкім — з дзвюма ягонымі пасмяротнымі постацямі. Яны адляцелі, і адляцелі назаўсёды, пакінуўшы як напамін пра сябе — блакітную трысцінку. Іхняе раптоўнае знікненне было нібыта магічнай забаронай тэрмінова ехаць у Прагу і шукаць там Альшанскія могілкі. І я зразумеў, што не трэба болей трывожыць тыя постаці, не варта іх даганяць, як не варта раней часу чакаць анёла.

І гэтых дзён, праведзеных не ў Празе, а ў Татрах, шкадаваць не варта. Бо вядома ж — блаславёны не толькі тыя мясціны, да якіх мы імкнёмся, але і гэтыя, дзе знаходзімся. І, увогуле, жаданні ў большасці сваёй не павінны супадаць з рэальнасцю, бо неабавязкова мець патрэбнае ў матэрыяльнай выяве. Яго можна прыдбаць, даверыўшыся фантазіі. І я свядома не пазбег фантазіі, падаючы партрэт Забэйды-Суміцкага, таму што пра спевака і да сённяшняга дня я не ведаю больш, чым ведаю.

1987—1989.

# Анатоль Дзям'янавіч ШЫБНЁЎ

Беларускае савецкае мастацтва панесла цяжкую страту. 18 сакавіка 1990 года пасля працяглай хваробы памёр вядомы мастак-жывапісец, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларускай ССР Анатоль Дзям'янавіч Шыбнёў.

А. Д. Шыбнёў нарадзіўся 11 снежня 1907 года ў горадзе Ленінградзе. Спецыяльную адукацыю атрымаў у Адэскім мастацкім інстытуце і ў Інстытуце жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Я. Рэпіна Акадэміі мастацтваў СССР.

Пачатак творчай дзейнасці А. Д. Шыбнёва адносіцца да 1938 года, з удзелу яго на Усесаюзнай маладзёжнай выстаўцы ў Маскве.

А. Д. Шыбнёў — прадстаўнік старэйшага пакалення беларускіх мастакоў, адзін з вядучых жывапісцаў рэспублікі. Ён паспяхова працаваў у розных жанрах жывапісу: яго пэндзлю належаць палотны, прысвечаныя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, подзвігу савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне, сучаснасці, партрэты, пейзажы, нацюрморты.

Карціны «Палонных вядуць», «Ёсць такая партыя», «На Першым Усебеларускім з'ездзе Саветаў», «Рэвалюцыйныя дні», «Ленін у Кастрычніку», «Людзі, помніце Хатынь», «Памяць сэрца. Брэст 1941 года», «Радасць ураджаю» — дастойны ўклад мастака ў развіццё беларускага жывапісу.

Анатоль Дзям'янавіч шмат сіл, увагі і энергіі аддаў грамадскай рабоце. Ён выбіраўся членам праўлення, намеснікам старшыні праўлення Саюза мастакоў БССР, старшынёй Мастацкага фонду рэспублікі.

Працоўныя заслугі А. Д. Шыбнёва адзначаны ганаровым званнем «Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР», ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга і «Знак Пашаны», Ганаровымі граматамі Вярхоўных Саветаў Беларусі, Украіны і Літвы.

Светлая памяць пра Анатоля Дзям'янавіча Шыбнёва, мастака, чалавека багатай і шчодрай душы, назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Міністэрства культуры БССР,**
**Саюз мастакоў Беларусі,**
**Беларускі фонд культуры.**

# СЫГРАЙ, ДЗЯДУЛЯ, НА ЛЮТНІ...

**Унікальная калекцыя народных музычных інструментаў прадстаўлена на выстаўцы, якая адкрылася на ВДНГ БССР. Яна сабрана навуковым супрацоўнікам Дзяржаўнага гісторыка-культурнага запаведніка «Заслаўе» У. Берберавым.**

Старанна прадуманая кампазіцыя дазваляе не проста пазнаёміцца з творамі народных умельцаў, але і прасачыць за геаграфіяй іх распаўсюджвання, даведацца пра музычныя схільнасці жыхароў розных мясцовасцей Беларусі. Ёсць у калекцыі інструменты з цікавым лёсам. Напрыклад, лютні, знойдзенай на Гродзеншчы, не менш чым 150 гадоў. Адрэстаўрыраваная ўмелымі рукамі майстра, яна і сёння поўная чароўных гукаў. А сустрэў першых наведвальнікаў выстаўкі старадаўні вясельны марш, выкананы на гармоніку.

— Усё, што вы тут бачыце, я сабраў у паездках па беларускіх вёсках прыкладна за год,— расказвае Уладзімір Берберaў. — Многіх з тых, хто рабіў гэтыя цудоўныя інструменты, даўно няма ў жывых. Старыя майстры паміраюць, і разам з імі знікае іх рамяство. Хочацца верыць, што знойдуцца энтузіясты, якія падхопяць эстафету. гатовую вось-вось перапыніцца, не дадуць знікнуць крыніцам народнай творчасці. У Заслаўі мы плануем стварыць майстэрні, дзе будуць адраджацца забытыя народныя рамёствы. Хутка паявіцца ў рэспубліцы і музей народных музычных інструментаў.

**Н. ШЭЛДЫШАВА,**
**кар. БЕЛТА.**

